Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 16 (4714) 19 красавіка 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб узнагароджанні дзяржаўнымі ўзнагародамі шэрагу грамадзян краіны. Ордэна Францыска Скарыны ўдастоены прафесар кафедры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Дзмітрый Смольскі. Ганаровае званне народнага артыста Беларусі прысвоена прафесару кафедры кампазіцыі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Андрэю Мдзівані, заслужанага дзеяча культуры Беларусі — мастацкаму кіраўніку ўзорнага хору хлопчыкаў і юнакоў Брэсцкага абласнога Палаца культуры Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Але Ігумнавай.

✔Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец удастоены падзякі Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі за значны асабісты ўнёсак у сацыяльна-культурнае, грамадска-палітычнае жыццё краіны, развіццё і прапаганду айчыннай культуры і літаратуры.

✔ Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец стаў лаўрэатам Міждзяржаўнай прэміі «Зоркі Садружнасці» за дасягненні ў галіне культуры і мастацтва. Прэмія заснавана Саветам па гуманітарным супрацоўніцтве дзяржаў-удзельніц СНД і Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва.

✔ Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў і намеснік генеральнага сакратара Савета Еўропы Габрыэла Батані-Драгоні падчас правядзення ў Маскве X Канферэнцыі міністраў культуры краін Савета Еўропы дамовіліся пра шэраг сумесных акцый. Гэта прэзентацыя «Белай кнігі» па міжкультурным дыялогу Савета Еўропы, Дні еўрапейскай спадчыны і мерапрыемствы, прысвечаныя 20-годдзю з дня ратыфікацыі Беларуссю Еўрапейскай культурнай канвенцыі. Таксама была абмеркавана магчымасць далучэння Беларусі да інфармацыйнай сістэмы культурнай палітыкі «Кампендыум», якая дазваляе абменьвацца інфармацыяй у культурнай сферы па ўсіх краінах Еўропы.

✔ Міністры культуры Беларусі і Расіі Барыс Святлоў і Уладзімір Мядзінскі абмеркавалі правядзенне «Славянскага базару ў Віцебску» ў новым фармаце, усталяванне помнікаў Сімяону Полацкаму ў Маскве і Уладзіміру Мулявіну ў Екацярынбургу, а таксама сумесны кінапраект, прысвечаны 100-годдзю Першай сусветнай вайны.

✔ Дзяржаўная інвестыцыйная праграма на 2013 год за кошт рэспубліканскага бюджэту (агульны аб'ём сродкаў — 103,3 млрд. рублёў) прадугледжвае фінансаванне 14 аб'ектаў спадчыны. Таксама на бягучы год запланавана завяршыць рэканструкцыю і ўвесці ў эксплуатацыю сядзібны дом у в. Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна, сядзібу Агінскага ў Залессі і чацвёртую чаргу Свята-Васкрасенскага Кафедральнага сабора ў Барысаве.

✔ Тэлеканал «Беларусь-3» уключаны ў абавязковы пакет лічбавага тэлебачання і стане агульнадаступным для карыстальнікаў з 18 мая бягучага года.

✔ Беларусьфільм упершыню возьме ўдзел у Міжнародным фестывалі жаночага кароткаметражнага кіно «A Corto di Donne» у Італіі. Нашу краіну будзе прадстаўляць дакументальны фільм «Асаблівы тэатр. У пошуках шчасця» рэжысёра Кацярыны Махавай.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ



4 У чым віна Платона Галавача?



8 Дуда — гэта сучасна



13 Магілёў. Ёсць кантакт!



15 Першы пасля Полацка



Фота Аляксандра Дзідзевіча, Марыны Весялухі, калаж Віктара Калініна

У Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж» адкрылася выстаўка «Кніжная спадчына Радзівілаў».

Нататкі з прэзентацыі чытайце на стар. 9. ▸

## Пытанне да творцы

# У якія цікавыя мясціны Беларусі вы запрасілі б сяброў з замежжа?



**Фёдар Ястраб, мастак:**

— Маім сябрам з Літвы вельмі падабаецца Нясвіжскі замак. І яны мараць пра тое, каб там пабыць даўжэй, чым 3 — 4 гадзіны звычайнай экскурсіі — пажыць, папрацаваць. Зразумела, і ў Мір я іх вазіў: мы нават рабілі там міжнародны пленэр, пісалі возера. Цудоўна пабыць на Прыпяці: жыць у палатках, лавіць рыбу, пісаць эцюды — падобную прыгажосць наўрад ці дзе-небудзь яшчэ сустрэнеш. Мару павандраваць па Ушаччыне, яе невялікіх лясных азёрах.

Вельмі добра, што распачалося аднаўленне Ружанскага замка. Выдатна было б аднавіць там усю інфраструктуру — зразумела, на падставе навуковага падыходу. Захаваліся ж малюнкі, фотаздымкі. Гэта датычыць і іншых славутых мясцін. Кірунак на іх адраджэнне вельмі правільны і неабходны для стварэння адпаведнага іміджу краіны. Беларусь — краіна замкаў, а не краіна лапцей.



**Янка Крук, даследчык традыцыйнай культуры беларусаў, рэктар Інстытута культуры Беларусі:**

— На працягу апошніх гадоў я займаюся вывучэннем сакральнай геаграфіі нашай краіны. Гэта мясціны, звязаныя з абрадавымі практыкамі, дзе захаваліся святыя крыніцы, святыя камяні або святыя дрэвы. Усе ведаюць славуты Тураўскі крыж, а ёсць яшчэ, прыкладам, Каменная дзяўчына ў вёсцы Данілевічы Лельчыцкага раёна, Камень са ступнёй Багародзіцы (Уздзенскі раён), Камень-Ахвярнік, на якім прымалі роды, — у вёсцы Лядычы каля Смілавіч. Ёсць «Астранамічная абсерваторыя камянёў» у Лагойскім раёне — праўда, не скажу, дзе дакладна, бо мяне прасілі пра гэта мясцовыя жыхары, якія не хочуць пакуль масавага наведвання.

Што да сяброў з замежжа… Едзем звычайна на возера Свіцязь, дзе побач дзве крыніцы — з «белай» і з «чорнай» вадой.



**Уладзімір Шчасны, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА (па тэлефоне з Парыжа):**

— Замежных сяброў і партнёраў накіроўваю, у першую чаргу, у Мір і Нясвіж. Па-першае, таму, што гэтыя комплексы знаходзяцца ў добрым стане. Па-другое, гэта аб'екты, уключаныя ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Кожны з наведвальнікаў, незалежна ад нацыянальнасці, знойдзе там нешта цікавае менавіта для сябе.

## Дарожныя нататкі

# «Па Вялікім Шаўковым шляху»: святло кнігі


Фота Віктара Лукашэвіча

На прэзентацыі нацыянальнага стэнда Беларусі.

**Прадстаўнічая беларуская дэлегацыя на чале з першым намеснікам міністра інфармацыі Ліліяй Ананіч узяла ўдзел у VII міжнароднай кніжнай і паліграфічнай выстаўцы «Па Вялікім Шаўковым шляху» (Казахстан, г. Алматы, 11 — 13 красавіка). Толькі тры краіны былі вылучаны сярод іншых экспанентаў нацыянальнымі стэндамі — Расійская Федэрацыя, Кітайская Народная Рэспубліка і Рэспубліка Беларусь.**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

Арганізатары і госці выстаўкі пазнаёміліся з дзясяткамі беларускіх кніг, найперш — выдавецтваў «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», «Выдавецкі дом «Звязда», «Мастацкая літаратура», «Беларусь». Удзельнікі сапраўднага свята кнігі, важнымі арганізатарамі якога з беларускага боку сталі ААТ «Белкніга» і Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку, пазнаёміліся і з такімі ўзорамі паліграфічнай прадукцыі, як паштоўкі, календары, блакноты, вучнёўскія сшыткі і інш. Іх прывезлі на выстаўку ААТ «Чырвоная зорка» і Бабруйская ўзбуйненая друкарня імя А. Непагадзіна. А іх кіраўнікі Ігар Маланяк і Уладзімір Пасько правялі ў ходзе выстаўкі перамовы. Пасля завяршэння выстаўкі Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Казахстан былі падораны лепшыя выданні беларускіх выдавецтваў.

Варта зазначыць, што арганізатарам выстаўкі перш-наперш з'яўляецца Нацыянальная дзяржаўная кніжная палата Казахстана. У гэтай аўтарытэтнай кніжніцкай структуры добрыя стасункі з беларускімі калегамі. Не выпадкова ў складзе дэлегацыі Беларусі ў Алматы працавала і дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты нашай краіны Алена Іванова.

Здавалася б, далёкая краіна, нязблізкая дарога… І нават асэнсаванне зносін у звязку з прысутнасцю Беларусі і Казахстана ў адной мытнай прасторы пакуль што не дазваляюць гаварыць пра цесныя кніжніцкія, выдавецкія стасункі. Але ж гэта толькі першае, павярхоўнае ўражанне. Насамрэч ужо сёння складваюцца добрыя міжнародныя сувязі ў кніжнай справе. І асновай іх у першую чаргу з'яўляюцца пісьменніцкія асяродкі, літаратурна-мастацкія часопісы Беларусі і Казахстана.

…Следам за ўрачыстым адкрыццём выстаўкі адбылося і адкрыццё нацыянальнага стэнда «Кнігі Рэспублікі Беларусь». Лілія Ананіч прадставіла навінкі апошняга часу. Асаблівую ўвагу ўдзельнікі прэзентацыі звярнулі на «Энцыклапедыю студэнта і школьніка». З гэтым і іншымі выданнямі гаспадароў і гасцей выстаўкі пазнаёміла дырэктар «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі» Таццяна Бялова. А Выдавецкі дом «Звязда» быў прадстаўлены праектамі, звязанымі з перакладнымі кнігамі. У прыватнасці, размова ішла пра анталогію «Лучнасць», у якой сабраны пераклады Міколы Мятліцкага з паэзіі розных народаў, кнігу перакладаў «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая» і зборнік вершаў Абая «Стэпавы простор». А таксама — пра паэму «Прарок» Халіла Джэбрана, выдадзеную ў Мінску па-англійску і па-руску.

— …А хто, адкуль — з Масквы ці Санкт-Пецярбурга — пераклаў Джэбрана вершам? — распытваў беларускую дэлегацыю генеральны дырэктар «Выдавецкага дома «Бібліятэка Алжас» вядомы алмацінскі ўсходазнаўца Сафар Абдуло.

Давялося расказаць пра рэдактара аддзела паэзіі часопіса «Нёман», паэта, літаратурнага крытыка, дзіцячага пісьменніка і перакладчыка Юрыя Сапажкова. Пра тое, што многа гадоў таму ён адважна ўзяўся за выкладанне твора геніяльнага арабскага пісьменніка і мысляра ў паэтычнай форме. Па частках пераклады друкаваліся ў часопісе «Всемирная литература».

«Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая» — кніга, якую захоплена гарталі выдаўцы з Кітая — дырэктар «Сінцзянь Цыншаанянь Чубаньшэ» Сюгі Цзян і дырэктар выдавецтва «Ілі Жэньнінь Чубаньшэ» Нуэртаў Кыясыбеке (абодва з Сіньцзяньскага аўтаномнага раёна). Сустрэча з такім выданнем была для іх выключнай нечаканасцю.

У першы ж дзень кніжнай выстаўкі на прэс-канферэнцыі з удзелам кіраўніцтва кніжнай галіны Казахстана беларуская дэлегацыя перадала прывітанне ад пісьменніцкай арганізацыі Беларусі і асабіста старшыні СПБ Мікалая Чаргінца. А старшыні Саюза пісьменнікаў Казахстана Нурлану Аразалієву і паэтэсе Любові Шашковай былі ўручаны медалі «За вялікі ўклад у літаратуру». Узнагароды сталі адзнакай згаданых літаратараў за арганізацыю беларуска-казахскіх літаратурных сувязей. У нашых саюзаў ёсць міжнароднае творчае пагадненне. Часопісы «Нёман» і «Простор» абменьваюцца публікацыямі. І «Полымя» неадночы ў апошнія гады друкавала пісьменнікаў Казахстана — Абая, Жумагалі Саіна, Алжаса Сулейменава, Любоў Шашкову.

На выстаўцы «Па Вялікім Шаўковым шляху» была прэзентавана і адмысловая серыя «Выдавецкага дома «Звязда» — «Сугучча сэрцаў». Выйшла ў свет першая кніга — з удакладненнем «Сугучча сэрцаў»: Беларусь — Россия». Назва ў зборніка, дзе прадстаўлены сучасная беларуская і руская літаратуры, — «З думай пра Радзіму». Для знаёмства ў Алматы беларусы прывезлі новую кнігу серыі — «Сугучча сэрцаў: Беларусь — Казахстан». Назва — «Не ведаючы межаў». Праўда, пакуль што яе электронны варыянт. Прывезлі, калі так можна сказаць, на рэцэнзію, на абмеркаванне. Казахстанская частка рыхтавалася з удзелам казахстанцаў: галоўнага рэдактара часопіса «Простор» Валерыя Міхайлава, рэдактара аддзела «Простора» Любові Шашковай і старшыні Саюза літаратурных перакладчыкаў «Таржымап» Кайрата Бакбергенава. Кансультацыі, падказкі рабіла і загадчык аддзела міжнародных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Ауэзава Акадэміі навук Рэспублікі Казахстан, кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева. Сённяшні твар казахскай літаратуры вызначаюць Фарыза Унгарсынава, Абіш Кекільбаеў, Муканалі Макатаеў, Кадыр Мурзаліеў, Калізан Іскакаў, Валерый Міхайлаў, Любоў Шашкова, Аралхан Бакееў, Назікен Алпамысказы, Нурлан Аразалін. Іх апавяданні і вершы — пра наш час, пра рэальнае жыццё і фантазіі, пра грамадзянскі выбар суайчыннікаў казахстанскіх пісьменнікаў.

— Кніга «Не ведаючы межаў» і сама задуманая серыя, — выказаўся, пазнаёміўшыся са зборнікам, які ўжо падрыхтаваны да друку, перакладчык Кайрат Бакбергенаў, — добры сігнал для сістэмнай работы ў адкрыцці адзін аднаго. Мне, прыкладам, Беларусь уяўляецца сучасным цэнтрам для паяднання творчых сіл з розных краін. Памятаю, якія стасункі дапамог мне знайсці, развіць міжнародны «круглы стол», што праходзіў у Мінску. Гэта і сустрэча са славяназнаўцам Іванам Чаротам, і знаёмства з беларускай кнігай верхнялужыцкіх сербаў. Спадзяюся, у беларускіх перакладчыкаў і выдаўцоў будуць і новыя творчыя праекты, што ўмацуюць сувязі пісьменнікаў, а значыць, і нашых народаў, нашых краін.

…І ўсё ж на выстаўцы, удзел у якой узялі дэлегацыі 13 краін, рэй вялі казахстанскія выдаўцы. Уразілі стэнды Нацыянальнай дзяржаўнай кніжнай палаты Рэспублікі Казахстан (дзе была і прэзентацыя кніг, якія выйшлі па фільмах рэжысёра Е. Турсунава), выдавецтва «Алматыкітап баспасы», Выдавецкага дома «Бібліятэка Алжаса», іншых выдавецтваў, паліграфічных структур. З цікавасцю знаёміліся наведвальнікі з ілюстрацыямі казахскага кніжнага графіка Дархі Кайрамбетавай да «Героя нашага часу» М. Лермантава (кніга выдадзена ў Расіі).

Падсумоўваючы ўдзел беларускай дэлегацыі ў выстаўцы «Па Вялікім Шаўковым шляху», Лілія Ананіч звярнула ўвагу і на такую акалічнасць:

— Алматы, Казахстан увогуле могуць быць для нашай краіны своеасаблівымі варотамі для ўваходжання кнігавыдавецкай галіны ў іншы свет. І ў Казахстане, і ў Таджыкістане, Туркменістане, Кыргызстане, Узбекістане запатрабавана кніга на рускай, англійскай мовах. Беларускія выдавецтвы маглі б быць выканаўцамі многіх замоўленых праектаў. Спадзяюся, гэтаму будзе спрыяць і падпісанае ў час выстаўкі Дамова пра супрацоўніцтва паміж Асацыяцыяй кнігараспаўсюджвальнікаў Казахстана і Саюзам выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку Рэспублікі Беларусь.

Многія прэзентацыі, сустрэчы беларускай дэлегацыі праходзілі ў гэтыя дні і па-за межамі асноўнай выставачнай пляцоўкі: у Алмацінскім дзяржаўным паліграфічным каледжы, у Алмацінскім бізнес-каледжы, у друкарнях, выдавецтвах і бібліятэках, у акадэмічным інстытуце літаратуры і мастацтва. Відавочна, што агульная кнігавыдавецкая, паліграфічная прастора дзякуючы плённай рабоце на выстаўцы «Па Вялікім Шаўковым шляху» набудзе ў межах Мытнага саюза новыя абрысы.

**Алматы — Мінск**

## Прынятыя ў СПБ



**БЫКАВА**
**Святлана Анатольеўна**
***Паэтэса***

Нарадзілася 5 лютага 1962 года ў г. Заслаўе Мінскага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава. Працуе ў інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па г. Заслаўе. Суаўтар васьмі калектыўных паэтычных і музычных зборнікаў. Аўтар кніг вершаў «Откровение позднего лета» (2010) і «Дорога к себе» (2011).



**КВЯТКОЎСКАЯ**
**Вера Фёдараўна**
***Паэтэса***

Нарадзілася 12 студзеня 1953 года ў Тураве Гомельскай вобласці. Скончыла Гомельскі машынабудаўнічы тэхнікум. Працавала на заводзе «Электраапаратура». Вершы друкаваліся ў калектыўных зборніках «Пралеска», «Міжрэчча». Аўтар кніг «Листопад любви» (2009), «Странник у огня» (2010).



**РАЎЧАНКА**
**Вольга Іванаўна**
***Перакладчыца***

Нарадзілася 5 верасня 1954 года ў Ленінскім раёне Джалал-Абадскай вобласці (Кыргызстан). Скончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Працавала перакладчыкам у аддзеле маркетынгу Гомельскага хімічнага завода. Пераклады Вольгі Раўчанкі вершаў Ганны Пінцуці, Дж. Кардоні, Г. Раверы, Дж. Скабіа былі апублікаваныя ў часопісе «Нёман». Падборка перакладаў змешчана ў зборніку «Aurora Borealis» (2008) і ў кнізе «Яблоневый Бонсай» (2010).



**ХІХІЧ**
**Валерый Пятровіч**
***Паэт***

Нарадзіўся 21 ліпеня 1950 года ў в. Наўры Мядзельскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць», «Нёман». Аўтар зборнікаў паэзіі «Жураўліны клін» (2009) і «Цяплыня ўспамінаў» (2010).



**ШЫШЫГІН**
**Уладзіслаў Усеваладавіч**
***Паэт***

Нарадзіўся 23 жніўня 1974 года ў г. Гомелі. Скончыў юрыдычны факультэт Гомельскага кааператыўнага інстытута. Аўтар паэтычных зборнікаў «Посторонний» (2002), «Моя звезда» (2005), «Небесные струны» (2008), «Предрассветные голоса» (2011).

### План мерапрыемстваў XVII Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі» РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

**(Мінск, Футбольны манеж, пр-т Пераможцаў, 20/2)**

**23 красавіка**

12.00 — 15.00 — сустрэча з галоўным рэдактарам часопіса «Полымя», сустрэча з намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Звязда» — аб'яднаны стэнд беларускіх СМІ.

14.00 — 15.00 — «круглы стол» часопіса «Полымя» «1000 крокаў у будучыню» — канферэнц-зала.

15.00 — 16.00 — «круглы стол» «Жывая размова пра «Маладосць» — канферэнц-зала.

**24 красавіка**

12.00 — 15.00 — сустрэча з намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Нёман», сустрэча з намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Звязда» — аб'яднаны стэнд беларускіх СМІ.

13.00 — 14.00 — «круглы стол» часопіса «Нёман» «Рака часу» — канферэнц-зала.

**25 красавіка**

11.00 — 14.00 — сустрэча з галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», сустрэча з намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Звязда» — аб'яднаны стэнд беларускіх СМІ.

14.00 — 15.00 — «круглы стол» газеты «Літаратура і мастацтва» «Праект «Літаратура»: шляхі аўтара да чытача праз СМІ» — канферэнц-зала.

15.00 — 18.00 — сустрэча з галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» — аб'яднаны стэнд беларускіх СМІ.

**26 красавіка**

11.00 — 13.00 — сустрэча з галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» — аб'яднаны стэнд беларускіх СМІ.

*З нагоды*

# Новае жыццё сядзібы

Учора адзначаўся Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцін.

**Раіса МАРЧУК**

Каля 870 матэрыяльных нерухомых аб'ектаў спадчыны Гомельскай вобласці ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі, у тым ліку 22 палацава-паркавыя ансамблі і сядзібы. Шэраг з іх патрабуе значных аднаўленчых работ для таго, каб у далейшым гэтыя пабудовы можна было выкарыстоўваць.

Як паведаміў галоўны спецыяліст па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ўпраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама Сяргей Разанаў, нядаўна прыйшла добрая навіна: сядзібна-паркавы комплекс у вёсцы Хальч Веткаўскага раёна, помнік ІІ катэгорыі каштоўнасці, які доўгі час выкарыстоўваўся ў якасці фондасховішча Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, «знайшоў» зацікаўленага інвестара.

Упершыню вёска Хальч згадваецца ў XIV ст. Калі ў 1772 г. населены пункт увайшоў у склад Расійскай імперыі, ім пачалі валодаць шляхціцы Войніч-Сенажэцкія. У першай палове XIX ст. яны пабудавалі палац і заклалі цудоўны пейзажны парк. Комплекс, які захаваўся да нашага часу, знаходзіцца на шляху з Гомеля ў Ветку і ўключаны ў турыстычны маршрут «Залатое кальцо Гомельшчыны».

Плануецца стварыць і музейны пакой, экспазіцыя якога раскажа пра гісторыю вёскі і сядзібы.

# Паэтычны форум

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

Сёння ўжо цяжка прыгадаць, каму першаму прыйшла ў галаву думка правесці паэтычны форум «Багдановіч». Калі Уладзімір Карагін, старшыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва, старшыня Мінскага гарадскога саюза прадпрымальнікаў, мой вучань і паплечнік, не толькі «даў дабро», але і выказаў захапленне ідэяй правядзення культурна-асветніцкага форуму, яшчэ не праглядваліся контуры яго арганізацыі, а таксама «кропкі» прыкладання сіл шматлікіх грамадскіх аб'яднанняў і ўстаноў.

Аднак нельга было не паверыць у існасць задумы, калі Сяргей Лысенка, сістэмны аналітык канфедэрацыі, з маладой няўрымслівай гарачнасцю, паклаўшы перад сабой аркуш паперы, разлінаваўшы яго на сістэмныя «кругі», пачаў запаўняць усю тую незвычайную, але амбітную прастору: мэты і задачы, хто які ўдзел павінен узяць у ім, каму і чаго чакаць ад правядзення форуму прыгожага пісьменства. Стала зразумелым: сплаў маладосці ў бізнес-супольнасці і вопыту Саюза пісьменнікаў павінен даць добры плён і прынесці багаты ўмалот.

Прэзідыум СПБ на сваім пасяджэнні ўхваліў ініцыятыву і прапанаваў сродкам масавай інфармацыі, абласным аб'яднанням, самім пісьменнікам актыўна ўключыцца ў правядзенне форуму.

Мэта форуму надзвычайна простая і зразумелая: прапаганда дасягненняў беларускай літаратуры. Задачы: актывізацыя творчай ініцыятывы моладзі ў галіне мастацкай літаратуры; распаўсюджанне дасягненняў беларускай мовы, літаратуры і культуры; выяўленне і падтрымка таленавітых творцаў.

Моладзі трэба «заявіць» пра сябе, выйсці з ценю, развіць творчы патэнцыял.

А таму варта звярнуць увагу на конкурс маладых літаратараў «Нашчадкі Багдановіча», які праводзяць Саюз пісьменнікаў Беларусі і канфедэрацыя прадпрымальніцтва. Намінацыі традыцыйныя: «Паэзія», «Проза», «Драматургія». Прымаюцца работы літаратараў ва ўзросце да 45 гадоў на беларускай і рускай мовах. Мастацкія творы на конкурс можна дасылаць на адрас канфедэрацыі:

**220033, г. Мінск,**
**вул. Серафімовіча, 11—115.**
**Тэлефоны: +375 (17) 298-24-41,**
**+375(17) 298-24-47.**

# Памяці таварыша



На 91-й вясне пайшоў з жыцця член Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт і празаік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Аляксандр Аляксандравіч Суслаў. Нарадзіўся ён 26 кастрычніка 1922 года ў сям'і настаўнікаў на прыіску Цэнтральны Удзярэйскага раёна Краснаярскага краю. Марыў пра паступленне ў Маскоўскі літаратурны інстытут імя А. М. Горкага, але ў жніўні 1940 года быў прызваны ў армію. Вайна засепа ў Новасібірску. На фронт пайшоў добраахвотнікам. Ваяваў на подступах да Масквы, пад Вязьмай, Ельняй. Зведаў жахі фашысцкага палону. Быў падпольшчыкам у Горках Магілёўскай вобласці, партызанам, камандзірам дывersійнага аддзялення, памочнікам камісара партызанскай брыгады № 47 «Перамога». З 1943 года — вайсковы разведчык. Удзельнічаў у аперацыі «Баграціён», у вызваленні Мінска. Узнагароджаны чатырма баявымі ордэнамі, а ўсяго — 27 дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Шэсцьдзясят гадоў А. Суслаў аддаў журналістыцы. Закончыў журфак БДУ. Працаваў у «Магілёўскай праўдзе», «Калгаснай праўдзе», «Советской Белоруссии». Больш як трыццаць гадоў з'яўляўся ўласным карэспандэнтам саюзнай «Торговой газеты» ў Беларусі.

Напісаў сотні артыкулаў, нарысаў, фельетонаў. У літаратуру прыйшоў пасля журналістыкі, хаця вершы пісаў са школьных гадоў. У 1997 годзе выйшаў першы паэтычны зборнік «Анатомия души», у 1998 г. – раман «Сэрца ў палон не здаецца», а ў 2005-м — другі зборнік паэзіі «Корань жыцця». У 2009 г. у серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» пабачыла свет яго кніга вершаў і прозы «Малінавы набат», а ў 2010 г. — зборнік апавяданняў і нарысаў «Творцы Перамогі».

У 2006 годзе А. Суслаў быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Браў актыўны ўдзел у творчым і грамадскім жыцці нашай арганізацыі. Імкнуўся перадаць маладым любоў да жыцця, да людзей, да Радзімы, прывіць цікавасць да яе гісторыі, культуры, пашану да ветэранаў. Актыўным, бадзёрым, верным свайму сыноўняму доўгу, улюбёным у мастацкае слова і застанецца Аляксандр Аляксандравіч у памяці калег і таварышаў.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць у сувязі са смерцю паэта і празаіка, журналіста, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Аляксандра Аляксандравіча СУСЛАВА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю пісьменніка Аляксандра Аляксандравіча СУСЛАВА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Дастаеўскі — на мове харэаграфіі

Падчас закрыцця фестывалю «Магія музыкі і танца» на сцэне Нацыянальнага тэатра оперы і балета прайшлі паказы спектакля «Браты Карамазавы» Санкт-Пецярбургскага акадэмічнага тэатра балета пад кіраўніцтвам Барыса Эйфмана.



*Фота з сайта www.belarusopera.by*

Легендарны пецярбургскі харэограф у трэці раз прадставіў уласныя пастаноўкі мінскай публіцы. У 1987-м, падчас правядзення І Усесаюзнага фестывалю музычных тэатраў, айчынныя балетаманы ўбачылі «Майстра і Маргарыту» і «Легенду». У 2010-м — «Ганну Карэніну» і «Чайку». Але сёлетнія гастрольныя паказы маюць сваю асаблівасць: мінчане адныя з першых убачылі новы спектакль (паказ у Беларусі стаўся трэцяй прэм'ерай). Так, Эйфман ужо ставіў «Братоў Карамазавых» у 1995 годзе. Але, паводле яго слоў, перапрацаваў харэаграфію амаль поўнасцю.

Пастаноўка яскрава адлюстравала індывідуальны почырк балетмайстра і прынцыпы яго працы. Эйфман арыентуецца на творы сусветнай літаратуры, з якіх выбірае асобныя элементы сюжэта. Але класіка для яго — толькі аснова спектакля, стартавая пляцоўка, ад якой ён адштурхоўваецца. Другі прынцып — свабоднае выкарыстанне музыкі. Эйфман смела ўжывае метад калажу. У пастаноўку «Браты Карамазавы» ўвайшлі сачыненні Рахманінава, Вагнера, Мусаргскага і нават дзве цыганскія песні. Сцэнаграфія балета, якая належыць Вячаславу Окуневу, шматфункцыянальная. У розных сцэнах яна выступае ў якасці дома, храма, турмы.

І апошняя тэндэнцыя — надзвычайная тэхнічнасць трупы. Гэта дазваляе дасягаць неверагоднай інтэнсіўнасці дзеяння, фантастычнай хуткасці рухаў, акрабатычнай складанасці сола, дуэтаў, масавых сцэн, такога градуса эмацыянальнасці, калі глядач патрапляе ў вір страсцей. Прыемна, што ў розных складах балета занятыя адразу некалькі беларускіх салістаў, якія стала працуюць у трупе Эйфмана: Мікалай Радзюш (Аляксей Карамазаў), Юрый Кавалёў (Дзмітрый Карамазаў), Любоў Андрэева (Грушанька) і Аляксей Турко (бацька, Фёдар Паўлавіч).

Зрэшты, інтэнсіўнасць існавання — не толькі аснова харэаграфіі, але і стыль жыцця самога Эйфмана. Цяжка паверыць, што аўтару «Братоў Карамазавых» 66 гадоў, а на яго рахунку — больш як 45 пастановак. Пры гэтым яго пластычная мова, у якой пераасэнсоўваецца неакласічная і мадэрнісцкая харэаграфія, усприймаецца арыгінальнай і сучаснай.

Найбольш наватарскім выглядае ў пастаноўцы інтэрпрэтацыя «Маналогу Вялікага Інквізітара», у якім Аляксей атаясамляецца з Хрыстом, прапаведуе ўсеагульную свабоду і любоў, а яго брат Іван увасабляе цёмныя сілы. Нездарма людзі, які трапілі пад ягоную ўладу, нагадваюць механічных робатаў. Міжволі працягваючы спрэчку з братам, Аляксей, якому цяжка бачыць чалавечыя пакуты, выпускае вязняў «мёртвага дома» на свабоду. Але ашалелы ад свабоды натоўп разбурае ўсё на сваім шляху…

Застаецца дадаць, што паказ «Братоў Карамазавых», без перабольшвання, стаў адной з самых значных падзей тэатральнага сезона.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

*Абрысы*

Арт-кафэ Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь запрашае сёння ў 19.00 на інтэрактыўную праграму «Несапраўдны тэатр Пане Каханку» ад творчага калектыву «Майстэрня ўражанняў». Паводле сюжэта праграмы, знакаміты прадстаўнік роду Радзівілаў кліча сябра на прэм'еру новага спектакля ў сваім тэатры. Але жартаўнік і выдумшчык не абыходзіцца звычайнай пастаноўкай — гледачы маюць цудоўны шанц не толькі пачуць байкі ад беларускага Мюнхгаўзена, але ўзяць урокі сцэнічнага і рэальнага фехтавання, палепшыць дыкцыю, развучыць танцавальныя па і, самае галоўнае, на пэўны час стаць акцёрамі!

На наступным тыдні Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі прапануе шэраг цікавых імпрэз на любы густ. Так, 23 красавіка аматараў прыгожага пісьменства ў 17.30 чакаюць у Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы, дзе пройдуць XII Мінскія паэтычныя чытанні з удзелам сталых і маладых творцаў. А папярэдне, у 14.30, можна наведаць літаратурнае свята «Паэзія маладых» у публічнай гарадской бібліятэцы № 21. Там жа пройдзе прэзентацыя паэтычнай анталогіі «Мы — маладыя». Наступны дзень прысвечаны пытанням экалогіі: літаратурнае мерапрыемства «Усё званчэй трывога за Зямлю» распачнецца ў гімназіі-каледжы мастацтваў імя І. А. Ахрэмчыка а 15-й гадзіне.

Напярэдадні Міжнароднага дня вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў у Доме культуры Мінскага аўтамабільнага завода прайшла сустрэча людзей, якія цудам выжылі ў нечалавечых умовах. 11 красавіка 1945 года ў канцэнтрацыйным лагеры «Бухенвальд» успыхнула паўстанне. Зняволеныя перамаглі і вызвалілі 21 тысячу чалавек. У памяць пра гэтую падзею быў устаноўлены Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў. У Беларусі засталося ў жывых 602 чалавекі, якія прайшлі праз самыя жорсткія канцлагеры групы «А», дзе ўсё было накіравана на знішчэнне людзей. На працягу двух дзесяцігоддзяў у нашым Доме культуры праходзяць падобныя сустрэчы, — распавяла старшыня Клуба ветэранаў МАЗа Аляксандра Наркевіч. — Былыя вязні часта сустракаюцца з моладдзю, распавядаюць пра перажытае, каб падобнае ніколі не паўтарылася».

Паэтычны конкурс сярод студэнтаў БДУ падвёў вынікі. Пераможцаў віншавалі ў Расійскім цэнтры навукі і культуры. Трэба сказаць, што самымі актыўнымі былі факультэт міжнародных адносін, Інстытут журналістыкі і хімічны факультэт. Назавём імёны самых таленавітых творцаў. Гэта Вікторыя Гомза (інтымная лірыка), Валерыя Супрон (філасофская лірыка), Аляксандра Сакулевіч (пейзажная лірыка) і Уладзімір Шчарбакоў (патрыятычная лірыка). Маладыя паэты ўзнагароджаны дыпломамі Саюза пісьменнікаў Беларусі, а падарункам для іх сталі кнігі з аўтографамі аўтараў.

# Вінаватыя вінаватыя?..

Што да гэтага часу бянтэжыць у жыццёвым шляху Платона Галавача найбольш — дык гэта яго нечаканы і незразумелы «зрыў» у позняй творчасці. Нават на фоне і без таго трагічна-цьмянай гісторыі беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя гэты дзіўны «зрух» ламае зубы ўсім чорна-белым ярлыкам: ну вось куды яго ўпісаць?..

**Наталля ПАХОМЧЫК,**
**фота прадастаўлена Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва**

Бліскучы, ажно вочы слепіць, кар'ерны ўзлёт (ах, толькі ўявіце, як зайздросцілі таварышы): ад радавога селькара, якому даводзіцца паспытаць адукацыі найвышэйшага — на свой час і густ — гатунку (Мінская вышэйшая партыйная школа), сягае пасадных вяршынь намесніка народнага камісара асветы БССР.

Яго літаратурная творчасць працяглы час — проста сапраўдная мара стомленага цэнзара: і напісана няблага, і тэматыка-праблематыка ў межах дазволенага. Любата! Памятаеце, як рэдактар з крапівенскага «Вось тут і пішы» раіў пісьменніку, як лепш пра беларусізацыю пісаць: «Вы толькі рабеце так, што калі паглядзець, дык, здаецца, вы беларусізуецеся, а калі добра прыгледзецца, дык яно й на месцы...»

Дык і тут — караблі лавіравалі-лавіравалі… Паміж вострымі вугламі, канфліктамі, небяспечнымі тэмамі. Так, «Дробязі жыцця» (першы зборнік апавяданняў, 1927) выдатна ілюструе гэтае ўменне: калі манюка — то поп («Яўленая»), калі спакушальнік-нягоднік — то паніч («Загубленае жыццё») ці сын папа («Абмылілася»), калі каморнік несумленны — то гэта, вядома, таксама недарэзаны прадстаўнік гнілой буржуазіі («Рубанаўскі вузел») і г. д.

Ну так, тэндэнцыйна. Здавалася б — узорныя рэалізацыі надзённых ідэалагічных патрэб.

У чым, праўда, Галавача не папракнеш, дык гэта ў добрасумленным майстэрскім выпісванні вострых, кульмінацыйных момантаў, калі сэрца чытача мае ўсе шансы забіцца гулка: дыялогі — гучаць, рэплікі — выстрэльваюць, нават выклічнікі, да месца падабраныя, патрапляюць у лад, і тэкст ужо не тэкст, а твор — зладжаны, густа замешаны, хоць і не з «мукі» вышэйшага гатунку (бо адчуваецца — «пяклі» не сабе), але прыемны на смак:

*«— ...Сват, сват, ты чуў? Дык ты не дачку, знацца, бярэш, а дзесяціну? Гэць, які!*

*— Кінь сват, дык і дачку ж ён хоча.*

*— Дзе ж дачку, калі дзесяціну! Каб жа ён сказаў: вось, Якаў, бяру я дачку тваю па каханню, але жыць таксама трэба; а сена ў мяне мала, — дык дай, тата, дзесяціну! Тады б мо' і даў: бярэце, дзеткі, жывеце на здароўе! А то бач, бач, а-а-а! На чорта дачка без дзесяціны! А чаму не дзесяціна на чорта без дачкі, а, а? Ну дзе ж ты бачыў гэтакае сватанне, а?» («Кнак»).*

Тут Галавач цвёрда трымаецца ідэалагічнай «замовы»: ненасытная прага грошай у вяскоўцаў пакліканая выразна выпукліць «ідыятызм вясковага жыцця» (вяселле развальваецца з-за прагнасці нявесты, жаніха і цесця), і становіцца ясна, чым і дзеля чаго чытача «пакармілі» — каб давесці неабходнасць перамен у кірунку светлай будучыні.



П. Галавач. 1925 г.

Але калі-нікалі Галавач, як герой апавядання «Уцякач» ці «Кара», нібы кідае свой адказны пост партыйца, выходзіць за абмежаванае і паказвае крыху больш (ці крыху інакш). Так, напрыклад, у першым апавяданні герой-дэзерцір асуджаецца сваімі баявымі таварышамі (нібыта атрымліваецца, што аўтарам таксама) на смерць, але, пераносячы пункт гледжання на самога героя і адлюстроўваючы падзею вачыма менавіта асуджанага, Галавач пакідае занадта шмат прасторы для роздуму чытачу:

*«— Братцы, братцы, я ж не хацеў, я не мог, мучыла мяне смерць...*

<...>

*Пачуў апошнюю каманду.*

*Перад вачмі замітусіўся цёмны туман.*

*Нешта балюча стукнула па нагах, у грудзі. Узмахнуў рукой. З грудзей, з самай глыбіні, вырваўся і застыў на губах крык. А зямля, і хвоі, і чырвонаармейцы задрыжэлі, захісталіся, зніклі ў тумане» («Уцякач»).*

Тое ж з «Карай»: салдат пакідае свой пост, бо верыць лістам з хаты, дзе пішуць пра невыноснае становішча на вёсцы, і хоча ўпэўніцца, што «светлыя» словы палітрука ілжывыя. Аднак аказваецца, што на вёсцы ўсё сапраўды светла і радасна і што падманваюць яго менавіта вяскоўцы. Хм. Не адзін чытач з вёскі, напэўна, усё ж такі падпісаўся б пад зместам «ілжывай» скаргі. Тут пісьменнік таксама на зададзенай лініі не пахіснуўся.

Лавіраванне не засцерагае ад галоўнага падводнага каменя: калі пакінуць за літаратурай яе ўласна-пазнавальную функцыю і «мацаць» праз жывыя мастацкія вобразы рэчаіснасць, сутыкненне з «айсбергам» — рана ці позна — непазбежнае.



П. Галавач у групе з пісьменнікамі З. Бандарынай і Р. Мурашкам. 1929 г.

І ў 1930-м Галавач сапраўды «нарываецца»... Побач з апавяданнямі зборніка «Хочацца жыць» (1930 год надае гэтай назве непаўторнае падтэкставае гучанне, пагадзіцеся) і аповесцю «Спалох на загонах» (таксама не без «падазроных» пасажаў) нараджаецца нешта неверагодна смелае, а як для 30-га, дык і занадта дзёрзкае — аповесць «Вінаваты».

Што накіроўвае чалавека на згубную дарогу паводле ранейшых твораў Галавача? Так, найчасцей — выдаткі старой буржуазнай маралі. «Вінаваты» ж, праводзячы праз рэтраспекцыю выразныя паралелі паміж матывацыяй учынкаў бацькі і сына, ставіць такое абавязковае тлумачэнне пад сумненне. Дэманструючы бязмежную, непадкантрольную свабоду мастацтва праз «канструкцыю магчымай рэчаіснасці» паставіць догму пад пытанне, аповесць паставіла пытальнікі над занадта вялікім шэрагам недатыкальных ідэй: а хто яны, гэтыя ворагі народа, у чым іх віна і хто прывілеяваны іх судзіць? О, які бязлітасны тут Галавач у агучванні кодэкса вымуштраваных суддзяў!

*«...Сэрца — дзеўкам трэба, у нас яго не паважаюць. У нас трэба, каб не верыць чалавеку. Бачыш чалавека, здаецца, што добры ён, а ты не вер, не вер...»*

Пасля такога — канечне, вінаваты. Канечне, арышт, суд тройкай і расстрэл. І запіска ў камеры:

*«Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя яшчэ скажа праўду пра нас.*

*Платон».*

**P. S.** Тут можна было б і паставіць кропку. З ценькім намёкам на тое, што акурат ужо і было тут сказана нешта гістарычна-праўдзівае. Аднак каб скончыць на пафасна-гераічнай ноце, трэба шмат што выкінуць за кадр. Шмат чаго з наступнай творчасці Галавача, той жа нарыс «Ад Мядзведжай гары да Белага мора», уяўляецца ізноў жа вышэйшым пілатажам па лавіраванні. Галавач нібыта выпраўляе ўсе былыя пытальнікі на цвёрдыя кропкі ды істэрычныя клічнікі. Вінаватыя — вінаватыя! Яны — «зладзеі, бандыты, кулакі і шкоднікі»! Але ў кантэксце сукупнай творчасці Галавача гэтае выпраўленне не зусім пераканаўчае, пасля кожнага сказа мроіцца шматкроп'е. Ці вінаватыя? Ці сам ён вінен?..

# Шляхамі лёсу, шляхамі прызвання



Васіль Гарбацэвіч (1893 — 1985) — адзін з пачынальнікаў беларускай драматургіі, разам (хоць і не побач) з У. Галубком і В. Шашалевічам. Да таго ж, ён — легендарны настаўнік, чыя 50-гадовая праца спрыяла выхаванню пакаленняў нашых суайчыннікаў. 120-годдзе з дня нараджэння — выдатная нагода паразважаць над таямніцамі прызвання, над уплывам абставін на чалавека, на спалучэнне розных галін творчай дзейнасці.

**Таццяна СТУДЗЕНКА,**
**фота прадастаўлена Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва**

Перад намі — яшчэ адна Асоба, чый патэнцыял раскрыўся насуперак быццам неспрыяльнаму сялянскаму асяроддзю (нецікавае яно, маўляў, і абмежаванае, нецывілізаванае і г. д.). Восьмы «рот» у беднай сялянскай сям'і, ён рана («на каленях у маці») навучыўся чытаць, таму ў школцы, натуральна, мусіў дапамагаць настаўніку з «першакамі». Гэта — збег абставін, які спрыяў нараджэнню ў ім настаўніка. Скончаная Рагачоўская семінарыя ў 1913-м, Мінскі настаўніцкі інстытут у 1918-м, Мінскі вышэйшы педагагічны інстытут у 1932-м — ужо заканамерны працяг таго, што пачалося досыць выпадкова.

Тым часам адбываўся збег абставін, у якіх нараджаўся настаўнік менавіта творчы. Вось маленькі штрышок — у тэму, як будучага драматурга прывабіла мастацкае слова: адпаведны «артэфакт» трапіў да яго ў паперах старэйшага брата Лукаша, калі той з'ехаў на вакацыі да сябра па настаўніцкай семінарыі. Прачытаўшы запрашэнне ў вершах, падпісанае «Твой Кастусь Міцкевіч», дзесяцігадовы хлапчук быў у захапленні: «Ай да Міцкевіч! От і піша ж!..» У 1909 г. у Рагачове таксама адкрылася настаўніцкая семінарыя, куды малады Васіль паступіў, падрыхтаваны старэйшым братам.

Штрышок — пра ўплыў асяроддзя, знаёмства з выбітнымі творчымі людзьмі. Падчас Першай сусветнай вайны Мінскі настаўніцкі інстытут быў эвакуіраваны ў Яраслаўль, дзе размясціўся ў былым доме Някрасава. «Матэрыяльна жылося цяжка, — успамінаў той час Васіль Савіч. — Затое багатым было духоўнае жыццё. Наладжваліся… вечары… На вечарах выступаў Максім Багдановіч, студэнт юрыдычнага ліцэя. Прыгожы, стройны, віртуозны дэкламатар, ён сваімі вершамі пакараў ўсіх».

Зразумела, не было б вартасці ад усёй гэтай «акалічнаснай драматургіі», калі б не было ўласнага руху чалавека насустрач свайму лёсу. Вярнуўшыся з Яраслаўля ў 1918 г., Васіль Гарбацэвіч стварыў у Дукоры тэатральны гурток, для якога сам пісаў п'есы, пераважна на мясцовым матэрыяле. Ставілася там і класіка: «Пінская шляхта» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, «Паўлінка» Янкі Купалы, «Апошняе спатканне» Уладзіслава Галубка… Сярод уласных твораў драматурга-настаўніка — этнаграфічная п'еса «Вяселле» (1921), пастаўленая на сцэне Беларускага драматычнага тэатра. Тамсама, як і шмат дзе яшчэ, ставіўся гераічна-гістарычны твор «Чырвоныя кветкі Беларусі» (1923) — пра трагічны лёс беларускіх партызан і падпольшчыкаў, якія змагаліся супраць белапалякаў менавіта ў Дукоры і былі расстраляныя на вачах аўтара ў 1920 годзе.

Кастусь Губарэвіч у прадмове да зборніка драматургічных твораў В. Гарбацэвіча адзначае безумоўную вартасць дакумента: «Нам… нельга забываць, што і з чаго пачалося, хоць і не заўсёды яно адпавядае нашым сённяшнім крытэрыям. Гэта — наша гісторыя, і яе трэба шанаваць». Пра гісторыю распавядае і твор «Песні нашых дзён», менавіта пра драматычны пачатак калгаснага руху. Зразумела, можна цяпер пасміхацца ў вусны: вось, маўляў, было яму ўсё зразумела ў гэтай справе — «песні», ды й годзе. Між тым, распавядаючы пра «песні» калектывізацыі, малады аўтар не абмінуў іх трагічнага падтэксту, вылучыўшы самую сутнасць стану расколатага грамадства, калі ўзнімаліся «дзеці на бацькоў, сёстры на братоў, жонкі на мужыкоў». Нягледзячы на тое, што сімпатыі аўтара цалкам на баку «актывістаў» «чортава калектыву», відавочна, што ён здольны прачуць і адчай «уласнікаў-аднаасобнікаў»: «Ані градачкі свае, ані макавачкі, ані кароваччкі, ані лёну пучка, ані палаценечка!..»

Што заўважна: уздым «новай радаснай песні» па кантрасце нагадвае «Песні жальбы» Якуба Коласа, і нават цяпер, амаль праз сто гадоў, мусіш захапіцца іх альтэрнатыўнасцю жальбе, плачу, нядолі, прынуцы і іншым атрыбутам без- і малазямелля. «Няплодны пясок» саступае ва ўражанні месца вялікім «разорам, без межаў, без загончыкаў, без камення», разорам-палям сённяшняй Беларусі.

Драматычным падаецца факт, што п'есы В. Гарбацэвіча, створаныя на пачатку 1920-х, у яшчэ нават маладым узросце, — апошнія яго п'есы. Псіхалагічна гэта зразумела: цудам ацалеўшы падчас масавага знішчэння інтэлігенцыі ў канцы 1920-х — 1930-х гг., малады настаўнік не жадаў цвяліць лёс, да таго ж быў цалкам апантаны школьнай справай. Яна, дарэчы, давала магчымасць не губляць сувязі з тэатрам, няхай толькі самадзейным, дзе ён мог праявіць сябе і ў якасці акцёра.

Было ў яго яшчэ адно захапленне — краязнаўства. Тут у якасці спрыяльнай акалічнасці трэба прыгадаць колішняга суседа сям'і Гарбацэвічаў, — Тодара Лысака: у час дзяцінства Васіля «яму ўжо маталася каля ста» і быў ён «жывой, захапляючай кнігай». «Цэлымі гадзінамі слухаў я яго апавяданні і вельмі выразна ўяўляў, як праходзілі ў нашых мясцінах полчышчы шведаў, Напалеона». Гэтыя расповеды і ўласныя пазнейшыя вышукі леглі ў аснову Гарбацэвічавай гісторыі вёскі Дукора. Закаханы ў яе ваколіцы, Васіль Савіч узводзіць назву да лацінскага слова decoro, што значыць «упрыгожваю». Так гэта ці не, але сёння імя і справы самога Васіля Гарбацэвіча — найпрыгажэйшае аздабленне гісторыі вёскі і адно з упрыгожванняў культурнай гісторыі краіны.

# Выданні, якіх даўно чакалі

*НЕКАЛЬКІ СУБ'ЕКТЫЎНЫХ МЕРКАВАННЯЎ ПРА КНІГІ АЛЕСЯ БАДАКА З СЕРЫІ «УСІМ ПРА ЎСЁ»*

У 2008 годзе РВУ «Літаратура і Мастацтва» кнігай «Расліны» Алеся Бадака распачало новую серыю пад агульнай назвай «Усім пра ўсё».

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

І вось на маім стале — пяць кніжак з гэтай серыі, якія выйшлі за апошнія пяць гадоў. Акрамя вышэйзгаданай гэта «Жывёлы» (2009), «Птушкі» (2010), «Насякомыя» (2011) і «Водны свет» (2012). Аўтар усіх — вядомы беларускі пісьменнік Алесь Бадак. Адрасаваныя выданні ў першую чаргу дзецям. Прычым, дзецям самага рознага школьнага ўзросту…

Такім чынам, серыя існуе не першы год, мае відавочны плён і, падаецца, самы час падвесці пэўныя вынікі.




Перш за ўсё, хачу адзначыць наступнае: усе кнігі серыі (акрамя апошняй, якая выйшла зусім нядаўна), зразумела ж, маюцца і ў нашай раённай дзіцячай бібліятэцы, і я першай справай накіраваўся туды, каб зірнуць на так званыя «кантрольныя лісткі тэрмінаў вяртання», якія ёсць на кожнай з бібліятэчных кніг.

І ведаеце, з задавальненнем адзначыў, што на ўсіх гэтых лістках хутка не застанецца свабоднага месца! А значыць, юныя чытачы бібліятэкі бяруць, чытаюць і нават перачытваюць серыю «Усім пра ўсё»…

Вось і я, адклаўшы справы, уважліва прачытаў пяць кніг. Усе выданні цудоўна (першакласна нават) аформленыя. І вокладкі, і фотаздымкі, і малюнкі. І, галоўнае, вытрыманая аднастайнасць (у лепшым сэнсе гэтага слова) усёй серыі, так што, набыўшы адну ці дзве кніжкі, так і карціць прыкупіць да іх астатнія. Радуе таксама і тое, што ўсе пяць напісаныя добрай літаратурнай мовай. Што таксама немалаважна, іх чытачамі могуць быць не толькі дзеці, але і дарослыя, якія таксама знойдуць для сябе шмат новай і цікавай інфармацыі. Кнігі гэтыя будуць не лішнімі і для аматараў лёгкага займальнага чытання, бо (адчуў па сабе) вельмі цяжка адарвацца, толькі разгарнуўшы любую з іх…




Апошнім часам я і сам шмат пішу для дзяцей, таму выкажуся з пункту гледжання дзіцячага пісьменніка. Гэтае меркаванне ніяк не супярэчыць, а ў чымсьці нават і дапаўняе першае.

Алесь Бадак не забываецца, што будучыя чытачы серыі — гэта, у першую чаргу, дзеці. Таму ён вельмі арганічна і, галоўнае, з густам «разбавіў» навукова-папулярны матэрыял мастацкімі тэкстамі. І не проста тэкстамі, а ўласнымі казкамі і вершамі. І, што характэрна, яны не толькі не выглядаюць лішнімі на фоне сур'ёзнага навукова-пазнавальнага матэрыялу кніг, але і робяць яго больш прывабным для маленькіх чытачоў.




Ну а для вучняў старэйшага ўзросту аўтар адшукаў яшчэ і шмат займальных гісторый з беларускай і сусветнай міфалогіі.

Чытачы даведаюцца, на прыклад, як пры дапамозе морквы пасябраваць з ляснымі гномамі. Або пра тое, за што шанавалі звычайных котак жыхары Старажытнага Егіпта. І якія выкапнёвыя птушкі далі пачатак легендам пра казачную птушку Рух з арабскага сярэднявечнага фальклору…

А хіба не цікава будзе сямікласнікам, якія толькі пачынаюць вывучаць батаніку, даведацца, як кухар-здраднік хацеў атруціць Джорджа Вашынгтона, прыгатаваўшы яму страву з… самых звычайных памідораў. А ўсё таму, што ў той далёкі час плады памідораў людзі лічылі смяротнай атрутай…




Такіх прыкладаў можна прыводзіць вялікае мноства, але час ужо зірнуць на серыю з пункту гледжання біёлага. Бо, што ні кажы, усе гэтыя кнігі ў першую чаргу біялагічныя, а я, як ніяк, у свой час скончыў біялагічны факультэт БДУ.

Уважліва (і нават, прызнаюся, крыху прыдзірліва) праштудзіраваўшы серыю, я так і не знайшоў якіх-небудзь біялагічных ляпаў ці недакладнасцей. Сустракаліся, праўда, дробязі, накшталт подпісу да фотаздымка ў томе «Жывёлы», з якога вынікала, што перад намі леапард. На самай жа справе на фотаздымку выява так званага дымчатага леапарда, які значна драбнейшы за свайго грознага «цёзку» і наогул знаходзіцца з ім у вельмі адносным сваяцтве (сапраўднага леапарда вучоныя адносяць да так званых «вялікіх котак», сярод якіх тыгры, ільвы, ягуары, а леапарда дымчатага — да котак малых, прадстаўніцай якіх, дарэчы, з'яўляецца і наша хатняя котка). Ці вось, для прыкладу, фотаздымак у кнізе «Насякомыя». На ім — аса, якая цягне вусеня. Подпіс тлумачыць: «галодную асу-амафілу зусім не бянтэжыць, што вусень у некалькі разоў большы за яе». Але ж аса, якой бы галоднай яна ні была, не стане харчавацца вусенем. Дарослыя восы — вегетарыянцы і харчуюцца ў асноўным нектарам і пылком кветак, а вось іх лічынкам неабходна менавіта мясная дыета. І гэтага вусеня, папярэдне паралізаваўшы трапнымі ўколамі джала, аса, хутчэй за ўсё, цягне ў норку, каб забяспечыць ежай сваіх будучых дзетак...




Але ўсё гэта малазначныя дробязі (якія, тым больш, адносяцца не да аўтарскага тэксту), і яны ніякім чынам не зніжаюць навукова-асветніцкай вартасці кніг. Я і сам, да вялікага свайго здзіўлення, знайшоў у іх шмат біялагічных звестак, раней мне не вядомых. Напрыклад, пра лічынкі камароў, што здольныя заставацца жывымі і ў вадзе, якая закіпае, і ў вечнай мерзлаце Антарктыды. Або пра спецыяльныя «датчыкі» на крылцах насякомых, якія сігналізуюць у час палёту пра палажэнне крылцаў і нават пра напрамкі паветраных плыняў.

А ў кнізе «Водны свет» акрамя звестак пра самых розных рыб ды іншых водных ці каляводных насельнікаў апавядаецца яшчэ і пра… саму ваду.

Нарэшце, варта ацаніць кнігі Алеся Бадака з пункту гледжання педагога-практыка.

Пачну з таго, што сучасныя вучні чытаюць, на жаль, недастаткова. І гэта яшчэ мякка кажучы...

Значная доля віны ў тым, вядома ж, бацькоў, якія ў раннім дзяцінстве не заахвоцілі сваіх дзяцей. Зразумела, куды прасцей уключыць маленькаму чалавечку мульцік, чым сесці з ім побач і цярпліва чытаць казку… Потым бацькі здзіўляюцца камп'ютарнай ці інтэрнэт-залежнасці школьнікаў. А дзеці гэтыя не проста не любяць чытаць, але адносяцца да чытання як да своеасаблівага пакарання…

На мой погляд, існуе і яшчэ адна прычына. Асабліва гэта датычыць выданняў на беларускай мове. Дзяцей не заўсёды задавальняе змест (а часта і літаратурная мова) кніг, якія могуць ім прапанаваць (або навязаць) школа ці, скажам, бацькі.

Можна па-рознаму ставіцца да феномена Гары Потэра, але нельга адмаўляць той відавочны факт, што дзякуючы кнігам Роўлінг дзеці і падлеткі ва ўсім свеце пачалі… чытаць. Прычым не па загадзе дарослых, а па ўласнай ініцыятыве. І зразумелі раптам, што чытаць — гэта не проста модна і сучасна! Чытаць — гэта яшчэ і захапляльна!

Я выкладаю ў школе біялогію і ўжо таму згодны вітаць любую кнігу біялагічнага зместу, якая будзе карыснай вучням для пазакласнага чытання. Тым больш калі яна таленавітая і здольная абудзіць цікавасць як да чытання ўвогуле, так і да паглыбленага вывучэння тых ці іншых біялагічных дысцыплін.

Пяць кніжак Алеся Бадака, якія ляжаць цяпер перада мной, якраз з гэтай шчаслівай катэгорыі. Не бяруся сцвярджаць, што ўсе дзеці, якія прачытаюць іх, захочуць звязаць сваю будучыню менавіта з біялогіяй, але наконт таго, што юныя чытачы серыі «Усім пра ўсё» па-іншаму ўбачаць прыроду вакол сябе, што яны будуць ставіцца да яе з куды большай павагай і клопатам, у мяне няма ніякіх сумненняў.

А гэта, пагадзіцеся, не так і мала…




# Радаснае ўспрыманне свету

Вельмі складана знайсці для дзіцяці кнігу, якая адпавядае ўсім педагагічным нормам. Яшчэ складаней адшукаць выданне, якое будзе станоўча ўплываць на псіхіку і светаўспрыманне маленькага чалавека. Стварэнне такога выдання ўзяў на сябе Юрый Сапажкоў. У кнізе «Павук-канатаходзец» аўтар змясціў цыкл вершаў для дзяцей малодшага школьнага ўзросту.

**Маргарыта ГЕРАСІМЁНАК**

На першай старонцы паэт звяртаецца да маленькага чытача. Ён успрымае яго як самастойнага, сталеючага чалавека. І гэта вельмі добра, таму што важна даць дзіцяці магчымасць самастойна адшукаць адказы на пытанні. Юрый Сапажкоў тлумачыць, што чытач зможа знайсці ў гэтай кнізе. Так, маленькія школьнікі дазнаюцца, што бярозкі не растаюць разам са снегам, пабачаць, што дажджы прыходзяць у госці і могуць заначаваць, пераканаюцца, што павучкі падобныя да цыркавых канатаходцаў.

Вершаваная форма твораў развівае дзіцячую фантазію, стымулюе творчае стаўленне да звычайных з'яў рэчаіснасці. Напрыклад, вершык «Летний вечер»:

*Ночь дотянулась до окошка.*
*Как травы, смяла голоса,*
*И под столом включила кошка*
*Свои зелёные глаза.*

Немагчыма абмінуць увагай мастацкае афармленне кнігі. Яскравыя малюнкі Марыі Міцкевіч прывабліваюць не толькі маленькага чытача, але і дарослага. Усе дэталі вельмі выразныя. Здаецца, што героі вершаў ажываюць пад пэндзлем мастака.

Як асобныя недахопы можна адзначыць тое, што часам, каб не парушыць будову верша, аўтар ужывае словы, якія могуць быць незразумелыя маленькаму чытачу. Напрыклад, верш «На Чёрном море»:

*Загара нет при сильном ветре,*
*И на коленки острые накинув плед,*
*Сказала девочка*
*трёх с половиной лет:*
*«Укрою-ка свои Ай-Петри».*

Не кожны ведае, што гэта патухлы вулкан у Крымскіх гарах. Ды і інфармацыя з верша «Крот», што з кратоў шыюць каўняры, можа быць неадназначна ўспрынята дзіцём. Але ў цэлым кніга вельмі добрая і можа стаць любімай на паліцы маленькага школьніка.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**



## Дыпціх

**Ізяславу Катлярову**

I

*А час, бывае, падахвоціцца*
*І блізка, ледзь не за плячом,*
*І па зямлі, і ў небе коціцца*
*Дзе вобадам, дзе абручом.*

*Разгон бярэ, ажно палохае,*
*Раве, спрабуе ўласны бас.*
*І ўрэшце робіцца эпохаю*
*Яго Вялікасць мудры час.*

II

*Ты ведаеш добра, што з вейка,*
*Не раз, быццам з промня-ляза,*
*Не толькі ў матулі — і ў века*
*Спаўзала, як глыба, сляза.*

*І зносіла ўміг з каламутай*
*Абразы і крыўды лаўжы.*
*Рабілася тою ж мінутай*
*Лягчэй і Хрысту на крыжы.*

* * *

*Сярод лапухоў, як акравак,*
*Дзе дрэмле ядловец-бажок, —*
*Пабачыш маленства ускраек*
*І свету свайго беражок.*

*Туману вільготная світка.*
*Па забарсні вербы ў вадзе.*
*А лёсу кудзельную нітку*
*Век цягне і ўмела прадзе.*

* * *

*А ён, драпежны весялун-касцёр,*
*Глынуўшы голле з усяе акругі,*
*Рашуча ўзмахнуў і распасцёр*
*Па-над сабою полымя дзяругу.*

*Хіснецца ўмомант цемрадзі сцяна,*
*Каб глянуць, у страхоцці ўзняўшы бровы,*
*Хто танчыць — чарадзей ці сатана,*
*Накінуўшы на плечы плашч барвовы?*

* * *

*А час ідзе у нас па Грынвічу.*
*Захочаш — з ім гадзіннік звер!*
*А крызіс — пасынак Гарыныча —*
*Ірвецца з прывязі, як звер.*

*І, не пытаючы па імені*
*І не б'ючы у медзь званоў,*
*Дзяржаву ў яміну памыйную*
*Ён кінуць мерыцца ізноў.*

*А рыфма бразгае дзяшоўкаю, —*
*Маўляў, ён, крызіс, як і суш,*
*Для тэрапіі трэба шокавай*
*І ачышчэння нашых душ!*

*Талковішча беспрэцэдэнтнае:*
*Пра злагаду гарлае мэтр, —*
*А гневу і злабы па цэнтнеры*
*На кожны ў нас квадратны метр.*

*Яны, канечне, гномы гномамі.*
*Ды палку ўсё ж не перагнём,*
*Калі ў пясок, не надта ўгноены,*
*Іх зааром, як перагной.*

*Няхай шалее грэчка з вікаю*
*Пад пластам ранішняй імглы!*
*Ах, колькі вырасціць і выкаваць*
*Дзівос усё-ткі мы змаглі!*

*І Запаляр'е пераконвае, —*
*Што, пратурыўшы халады,*
*Там пацяпленне парніковае*
*Ідзе, ламаючы ільды.*

*І з халцэдонам і цырконіем,*
*Без лішняй спешкі, спакваля*
*На белы свет мацерыковая*
*Скрозь прабіваецца зямля.*

*А гляне полюс і збянтэжыцца:*
*Цераз туманаў каламуць*
*Паволі айсбергі, як бежанцы,*
*У воды цёплыя ідуць.*

*Нібы з малітвай пакаяннаю,*
*Пры месяцы, як ліхтары,*
*Мо дзесь ажно да Акінавіі*
*Іх гоняць дужыя вятры.*

*Дарога доўгая і трудная.*
*І шторм разгневаны адно,*
*Як параходы мнагатрубныя,*
*Іх напал храпне, і — на дно!*

*І, не шкадуючы, з пагардаю*
*Уздыбіць грэбні, як хрыбты, —*
*Хіба даўно трубіла радыё,*
*Што свету — амба і кранты!*

*Цэнз у мароза ўзяў панізіўся.*
*Адліга прыйдзе — ён банкрут!*
*Ці ж не пачатак гэта крызісу,*
*Каб свет узяць у перакрут?!*

## Ода веніку

**Казіміру Камейшу**

*Мароз з віхрамі*
*І з гарачкай Байрана*
*Да бляску лёд спяшае спрэс лудзіць,*
*Пакуль з лясным засушаным гербарыем*
*Чакае зранку лазня*
*Маладзіц.*

*Узварухнецца*
*Венік сярод венікаў,*
*Такі рахманы, хоць вазьмі пагладзь!*
*Калі жанчына, з трапяткімі вейкамі,*
*На ім запыніць здзіўлены*
*Пагляд.*

*І, трапіўшы*
*Пад апякунства дамскае,*
*Ад радасці б хоць выгукнуў. Дык не!*
*Нібы ад ачмурэння дэкаданскага,*
*Аціхне. Змоўкне. Нават*
*Не дыхне!*

*І ўсё ж пашэнціць*
*Чмуту і шчаслівчыку —*
*Пабачыць зблізку, як рачны аер,*
*Парыльняю распранутых, без ліфчыкаў,*
*Жывых, з зямной акрасаю,*
*Венер.*

*Тут баль вады,*
*А не пустое бражніцтва.*
*Парыльня ў дыме, нібы ў парыку.*
*Не знае венік: з дамаю ён дражніцца,*
*Ці дражніцца з ім дама*
*На палку?*

*Ды, як спрадвеку*
*У парыльні водзіцца,*
*Пачне сваволіць — досыць а ці не? —*
*То хапатліва па каленях пройдзецца,*
*А то вышэй са згоды*
*Казытне.*

*І з прагаю*
*Гарачлівай хлапечаю,*
*Закручаны ў туман, бы ў цэлафан,*
*Пачне ён наўзахап, нібы апечаны,*
*Заліў плячэй жаночых*
*Цалаваць.*

*Пасля штодзённай*
*І сухой нішчымніцы,*
*Чым далей, тым, вядома, саладзей.*
*Аж задрыжаць і самі вейкі сыняцца,*
*Калі дарвецца ўрэшце*
*Да грудзей.*

*Не разумее*
*Зух лясны захапканы,*
*Прыходзячы да памяці ледзь-ледзь,*
*Чаму ўдваіх так апантана хакаюць —*
*Во-во гатовы кожны міг*
*Самлець?!*

*Сапе парыльня,*
*Як свякруха злашчая:*
*Хто гаспадар тут — д'ябал а ці бог?*
*А венік светла, нібы чмут аблашчаны,*
*Глядзіць жанчыне ўслед*
*Цераз парог.*

* * *

*Нашто прамовы палымяныя*
*І казачка не з тым канцом?*
*З рукой мне трэба паламанаю*
*Важдацца з ранку, як з дзіцём.*

*Даўно не ведаўся з выгодаю.*
*А льгот чакаць, гукаць дарма!*
*Руку, нібы дачушку, гойдаю,*
*Каб боль хоць троху прыдрамаў.*

**Уладзімір МАЗГО**



## Святыні

**Міхасю Пазнякову**

*Знямоглы ветрык ледзьве дыхаў,*
*Цябе ў мінулае вяртаў,*
*Калі насустрач выйшаў Быхаў*
*І, нібы бацька, прывітаў.*

*Гады міналі і стагоддзі,*
*Удалеч хвалямі плылі.*
*Але праз роднае Заброддзе*
*Дарогі ўсе твае вялі.*

*Так многа, што нас хвалявала,*
*І адгуло, і адцвіло.*
*Трывала сэрца захавала*
*Радзімы шчодрае цяпло,*

*Што на дарогах не астыне*
*Ні ад дажджоў, ні ад снягоў,*
*Пакуль чакаюць, як святыні,*
*Мясціны родныя дамоў.*

## Вязе «Радзіміч» на радзіму...

*Вязе «Радзіміч» на радзіму,*
*Прасуе коламі шашу.*
*Як птушкі з выраю,*
*Ляцім мы,*
*Каб хоць паспець да кірмашу.*

*У нас адвечная праграма:*
*Ахоўваць*
*Продкаў карані.*
*Байніцы Сынкавіцкага храма*
*Маўкліва моляць:*
*«Барані!..»*

*Тут можна з вечнасцю сустрэцца,*
*Што з даўнім сябрам,*
*Твар у твар.*
*Як звон царкоўны,*
*Б'ецца сэрца,*
*Бо споведзь слухае*
*Абшар.*

*Раней —*
*І ў будні, і ў нядзелі —*
*У гонар Ганны прасвятой*
*У Зэльве кірмашы гудзелі*
*І запрашалі на пастой.*
*Вякі ці коні праляцелі*
*За далягляд на вадапой?..*

*Вязе «Радзіміч» на радзіму,*
*Прасуе коламі шашу.*
*Як птушкі з выраю,*
*Ляцім мы,*
*Каб хоць паспець да кірмашу.*

## На спатканне

*Я спяшаю на спатканне*
*У загадкавай цішы,*
*Адчуваю трапятанне*
*Невядомае душы.*

*Не пужаюся, дарэчы,*
*На вачах шчаслівых слёз:*
*Незабыўную сустрэчу*
*Падарыць мне хоча лёс.*

*Я спяшаю на спатканне*
*Да тваіх любімых воч.*
*Мы з табою да світання*
*На дваіх падзелім ноч.*

*Я спяшаю-паспяшаю,*
*Не спыняючы хады,*
*Бо я ведаю, я знаю,*
*Што мяне чакаеш ты.*



*Фота Кастуся Дробава*

## Прыходжу ў лес, нібыта ў храм...

*Прыходжу ў лес, нібыта ў храм,*
*Што ўсім расчынены вятрам.*

*Малюся птушцы і пчале,*
*Блішчыць жывіца на чале.*

*Прычасце п'ю з лясных крыніц*
*Між сосен — велічных званіц.*

*Я спавядаюся лясам —*
*І ад бяроз святлею сам.*

*Штораз у волатаў-дубоў*
*Бяру адвечную любоў...*

*Прыходжу ў лес, нібыта ў храм,*
*Што ўсім расчынены вятрам.*

## Чарадзей

*Як чарадзей, шмат зведаў чар*
*Сівы, нібыта дым, ганчар.*

*Тут не адымеш аднаго:*
*Ад Бога талент у яго.*

*Сам Бог адкрыў яму сакрэт,*
*Каб ён стварыў гліняны свет.*

*І доўжыць свой адвечны рух*
*Штодня яго ганчарны круг.*

*У злепкі птушак і людзей*
*Душу ўкладае чарадзей.*

*Дарує нам здзяйсненне мар,*
*Натхнёны глінаю, ганчар.*

## Ледніковы перыяд

*Новым зместам напоўнены формы,*
*Як расколіны вечнай платформы.*

*Астывае дыханне Гальфстрыма,*
*А навокал — замнога экстрыму.*

*Засціляючы далі кілімам*
*Беласнежным, мяняецца клімат.*

*А мы верым, што не дабярэцца*
*Ледніковы перыяд да сэрца.*

Паліна ЛУК'ЯНОВІЧ

# Пакуль яны чакалі…

*Апавяданне*



Цікаў гадзіннік. Профіль Ахматавай на сцяне глядзеў задуменна і стомлена. Соня любіла Ахматаву, а інакш не павесіла б яе партрэт над рабочым месцам — шырокім, светлым сталом, абкладзеным кнігамі ў пацёртых вокладках. Гэтым сталом яна асабліва ганарылася: яшчэ падчас свайго нядоўгага захаплення камерцыяй бацька прывёз яго з Польшчы разам з гарнітурам. «Драўляны конь», як жартоўна называла Соніну каштоўнасць маці, быў для дзяўчыны добрым, надзейным сябрам. Калі Соні было неспакойна на душы, калі трэба было тэрмінова штосьці вырашыць, яна сядала за стол і, абшчапіўшы рукамі галаву, пачынала думаць.

Так яна сядзела і цяпер. За вокнамі цямнела, сціраліся абрысы дамоў і мяккім святлом успыхвалі адно за адным акенцы. Адсюль добра было відаць дарогу ў аранжавых агнях ліхтароў. Заканчваўся тлумны працоўны дзень, і праспект быў гатовы ўздыхнуць з палёгкаю. Праспект, але толькі не Соня.

Яна чакала маці. Настольная лямпа гарэла над разгорнутым сшыткам. Перад вачыма ляжала заданне ад рэпетытара. Рабіць яго не хацелася. На клятчастых аркушах разгублена таўкліся лічбы, лагарыфмы, іксы і ігрэкі, пакінутыя без увагі. Рашэнне абрывалася знакам «плюс», які ўжо з паўгадзіны чакаў наступнага складніка…

Соня ведала, калі прыходзіць мама, але не магла не сядзець і не прыслухоўвацца да цішыні ў напаўпустой кватэры. Пад тупаценне стрэлак па цыферблаце добра думалася, успаміналася…

Бацькі разышліся амаль месяц таму. Не было ні сварак, ні душашчыпальных сцэн, ні праклёнаў. Проста ў тую раніцу, замест таго каб выпіць кавы, яны ўзялі і… разышліся. І гэта было дзіўна, бо раней «разыходзіцца» мог толькі тата. Яму дазволена было ездзіць за мяжу «па справах», пасля гуляць тыднямі, спускаць грошы, бо ён жа «талент» і «мастак». Бабуля магла даравацъ яму любы ўчынак і спадзявалася на паблажлівасць астатніх. Пасля чарговых выбрыкаў сына яна тэлефанавала нявестцы, цікавілася іх з унучкай здароўем, салодкім голасам прапаноўвала дапамагчы па гаспадарцы і, быццам між іншым, асцярожна пыталася: «Ну, як вы з Генам?» Мама ўжо прадбачыла гэта пытанне і, памарудзіўшы, ніякавата адказвала: «Нічога, жывём…» На другім канцы провада чулася ўсхваляванае сапенне, а пасля ціхае, лагоднае: «Ну і дзякуй богу… Ты толькі, чуеш, не крыўдуй на яго. Натура ў яго творчая, неўраўнаважаная. І добрая, і шчырая, але неўраўнаважаная. Ты ж разумная жанчына, павінна ведаць…»

Спачатку Соніна маці слухала праз сілу, стомлена заплюшчыўшы вочы, і тады павекі яе ледзь заўважна дрыжалі, быццам на іх знутры абрушваліся хвалі салёнай вады. А потым яна проста клала трубку побач з тэлефонам і адыходзіла, каб не чуць непатрэбных парад свекрыві. Жанчына яна была сапраўды разумная, бачыла бацьку навылёт, таму, напэўна, ёй рабілася прыкра ад бабуліных павучанняў.

Соня не апраўдвала тату і не надта спачувала яму, хоць любіла не менш, чым маці. Проста ў яго ніколі так шчымліва не дрыжалі павекі, употай не крывіліся вусны ад крыўды і болю. Бацька быў увішны і жыццярадасны, крочыў па жыцці без згрызот і клопату. Вясёлы, гаваркі, ён меў многа сяброў, а яшчэ больш знаёмых, і быў гатовы аддаць дружбаку апошнюю кашулю. Бацька з запалам кідаўся ў любую авантуру: ці то ў гандаль, на якім ён прагарэў, ці то ў жывапіс, ці то ва ўласнае вяселле. І пасля ніколі не шкадаваў — шкадавалі блізкія. Яны быццам узялі на свае плечы ўвесь цяжар перажыванняў і турбот, каб Гену жылося лёгка і з шыкам. «Вялікае дзіця», — з сумна-пяшчотнай усмешкай паўтарала мама.

Для малой Соні тата быў найлепшай кампаніяй. Узімку яны любілі назіраць, як да іх кармушкі прылятаюць небаракі-птушачкі, сілкуюцца, дзяўбуць хлебныя крошкі. Якраз насупраць іх акна расла яблынька, і бацька прымацаваў да яе невялічкі домік з фанеры. Трэба было толькі адчыніць фортку і, пацепваючыся ад марознага паветра, высунуць кулачок з хлебнай скарынкай, пакласці яе пад ляльчыны дах і хутчэй назад, у цёплае. А пасля, стаіўшыся, вачэй не зводзіш з «вераб'інай сталоўкі», чакаеш першага крылатага госця. Носам прыціснешся да самай шыбы і адчуваеш: бацька таксама не варухнецца, дыхае ў патыліцу. І раптам — пырх! — сінічка нырнула пад змайстраваную татам страху, аж загайдалася кармушка. Не паспее жаўтагрудая госцейка пакаштаваць пачастунак, як ужо ляціць яе сяброўка, а там і непаседа-верабей…

Сэрца тады білася радасна-радасна, і Соня баялася, што яго шалёны стук распужае сініц. З бацькам было весялей сачыць за птушыным балем, адчуваючы між дарослым і сабой нейкую маўклівую дамоўленасць, згоду і паразуменне.

Аднойчы тата нават узяўся маляваць крылатых гараджанак, калі яны бясклапотна ласаваліся пры кармушцы. Соня з захапленнем, з непрыхаваным бляскам у вачах сачыла за бацькавымі прыгатаваннямі. Ён засяроджана рыхтаваўся да творчай працы, абсталёўваючы сваю імправізаваную майстэрню такім чынам, каб нішто не замінала, не раздражняла, не адцягвала ўвагу. Пераканаўшыся, што ўсё неабходнае пад рукой, тата нарэшце сеў і прыжмурыў вочы, пачаў пільна прыглядацца, адзначаць кожную няўлоўную дэталь, рысу. Соня ўсё сцерагла, калі ж з'явіцца на палатне першыя някідкія штрыхі эскіза.

Адна сініца, здаволіўшыся сняданкам, паляцела, і дзяўчынка пачала непакоіцца. «Ну што ж ты марудзіш, тата?! Так усе паразлятаюцца!» — у роспачы думала Сонечка, але сказаць уголас не наважвалася.

Неўзабаве бацька ўзняў руку з пэндзлем і апісаў ім штосьці ў паветры. У маленькай глядачкі перахапіла дух… Мастак вагаўся нядоўга: рашуча і ўпэўнена ён кінуў на чысты прамавугольнік першы тонкі штрых. І тут забегаў, затанцаваў пэндзаль! Лёгкія, раскаваныя рухі (маляваў тата левай рукой) нагадвалі нейкі таямнічы, урачысты рытуал, і Соня ўяўляла, нібы яна далучылася да найвялікшай таямніцы, не вядомай нават маме. Гэта поўніла яе гонарам, распальвала цікавасць да татавай працы.

А бацька тым часам з утрапеннем выводзіў абрысы знаёмага краявіду. Ён трымаўся эскіза, ажыўляў яго сакавітым колерам, ценямі, блікамі і зрэдку пазіраў на сваіх рухавых натуршчыц, толькі каб найбольш дакладна перадаць афарбоўку…

Соня выдатна памятае, як у той дзень разоў з дзесяць падыходзіла да карціны, уважліва разглядала, схіліўшы набок галоўку, а пасля нязменна вішчала ў захапленні, тузала бацьку за рукаво: «Ой, татачка! Ой, прыгожа!»

І цяпер дзяўчына ўзняла галаву, азірнулася на мілых сэрцу птушак, што са сцяны скоса пазіралі на яе чорнымі пацеркамі вачэй. Штосьці зашчыміла ўсярэдзіне, і салодкі сум разліўся па ўсім целе. Вярнуцца б у той дзень, калі марозная снежнасць сляпіла вочы, зляталіся да кармушкі сініцы і маляваў тата… Ну што за насланнё!

Нечаканая цішыню прарэзалі пазыўныя мабільніка. Соня ўздрыгнула, злосна выдыхнула:

— Фу ты, чорт! — і пацягнулася да сотавага, што нецярпліва коўзаўся набаку. Гэта была СМС-ка ад сяброўкі. Соня не стала чытаць паведамленне, тэлефон паставіла на «бязгукавы», сказаўшы: «Мяне няма». Няма… О, яна добра ведала, што гэта значыць!

«…Мама, дзе ён? Едзе?» — «Пакуль няма. Што ж ты не кладзешся спаць, Сонечка? Чаму зноў прыбегла босенькая?» — «Я з табой хачу…»

На кухні было цёмна. Святло мама знарок не запальвала: так зручней было глядзець у акно на начную вуліцу. Яна сядзела на табурэцку, абапіраючыся на падаконне локцем і падагнуўшы пад сябе нагу. У такой позе маці нагадвала вялікую птушку, адзінокую і самотную птушку Чакання. Апоўначы згаслі ліхтары, знік у сутонні двор. А маці не спала. І Сонечка не спала. Толькі яго не было…

«Ну што ты, дурнічка! Застудзішся! Давай бяжы па коўдру, будзем ужо сядзець разам». Малая ўзрадавалася, выслізнула ў калідор, запляскала голымі пяткамі па падлозе і праз імгненне ўжо цягнула за сабой покрыва, не ўмеючы падабраць яго ў кволыя ручкі. Мама падставіла другое крэсла бліжэй да акна, шэптам паклікала: «Хадзі!» Сонечка ў шчаслівым прадчуванні матчынае ласкі падалася наперад, прыўзнімаючы сваю ношу. Маці прыняла коўдру, паклала сабе на калені. Маленькі прывід у белай сарочцы ўскараскаўся на стул і аддаўся на волю цёплых, пяшчотных рук. Соня задаволена прытулілася да самага роднага чалавека, угрэлася і супакоілася. Ад аканіц патыхала прахаладай: за імі пачынаўся няўтульны, змрочны і пусты свет. У гэтым свеце заставаўся той, каго яны так чакалі, трэці вечар марнуючы ля акна.

«Крап, крап», — усыпляльна мармытаў сапсаваны кран, безупынна выплёўваючы ваду. Соня з мамай маўкліва сядзелі, утаропіўшыся ў цемру. Вялікая птушка і стомленае птушанятка. Яно змагалася са сном, насілу расплюшчвала няўцямныя вочы, але дарма. Пакрысе дзяўчынку лёгкім мроівам спавівала дрымота. А пасля наплывала штосьці чорнае, мяккае і зусім не страшнае…

Спалохана падхапілася, варухнулася ў трывозе. «Чаго ты, заечка?» — «Прыехаў ужо? Вярнуўся?» — «Спі. Яшчэ няма…»

Не паспела Соня ў думках пакінуць ціхую, цёмную куханьку, а ўжо абудзілася тое знаёмае адчуванне: сэрца смактала незабытая крыўда за маміну скруху, за адзінокія вечары, за вечнае «няма». Нядобрую гэту крыўду ніхто не сеяў, яна ўзыходзіла сама, бы дзікае насенне, і заглушала парасткі зычлівасці да бацькі. Соні было агідна і сорамна, яна спрабавала ўшчуваць сябе, але без карысці. Сярод крыўды, мабыць, згубіўся ключык да іх з татам паразумення. Калі гэта здарылася, чаму — невядома. Глядзелі сінічак — быў, а потым не стала…

У роздуме дзяўчына забылася на час і раптам страпянулася: палова сёмай. Неўзабаве прыйдзе мама.

Вечар поўніўся агнямі і рабіўся зусім лагодным, мірным, утульным. Гэта паўтаралася штодня і здавалася зарукай спакойнага, уладкаванага побыту. Нібы мяккая далонь легла на Соніну душу, адводзячы збянтэжанасць і хваравітае ўзбуджэнне.

Соня хацела была схіліцца над задачкамі, як пачуўся стук абцасаў па лесвіцы. Маці! Дзяўчына сцішылася, каб не прапусціць ніводнай дробязі. Гаспадыня тым часам старанна выцерла ногі, пачала корпацца ў замку… Нарэшце дзверы адчыніліся і ўпусцілі жанчыну ў вітальню. Адразу ўварвалася столькі звыклых гукаў: уздых, шамаценне цэлафанавых пакетаў, рэзкае зумканне маланкі на паліто…

Распрануўшыся, мама аднесла клункі на кухню. І там усё загрукатала, зарыпела: прадукты сумятліва займалі свае месцы. Зашумела вада…

Назаляла нясмелая думка: «Чаго я ўселася як на імянінах! Хіба часу замнога? Не чула даўно гэтай «музыкі» ці што?» Але ж Соня працягвала сядзець і прыслухоўвацца, бы зачараваная, як маці на дыбачках падыходзіць да яе пакоя, асцярожна прасоўвае галаву.

— Соня! — гукнула. — Займаешся?

— А то як жа.

— Ну, не буду перашкаджаць… — была прычыніла дзверы, але не ўтрымалася: — Скажы хоць, як маешся?

— Нармальна. А ты?

— Лепш за ўсіх, — не любіла Соня гэты мамін «гумар шыбельніка».

— Праўда, мам?

— Праўда. Ладна, пайду…

За сценкай разгаманіўся тэлевізар, а вучаніца рашуча ўзялася за «рэпетытара». Навошта яна так зацята чакала? Што хацела сказаць і не здолела? Забылася…

А дзявятай гадзіне Соня, пазяхаючы, сабрала сшыткі і падручнікі, з асалодай пацягнулася. Класціся спаць было яшчэ рана, але мама марыла пра адпачынак і цішыню, таму «гарызонт» у зале маўчаў і не стракацеў рэкламнымі ролікамі.

Соня ўзлезла на стол, адчыніла фортку — глыток стылага паветра апёк горла, пракаціўся ў лёгкія. Учапіўшыся збялелымі пальцамі за раму, дзяўчына стаяла колькі хвілін, углядалася ў апусцелую, сонную вуліцу. Пасля мякка саскочыла долу, прайшлася да дзвярэй.

У калідоры было цёмна. Ступаючы пакацінаму, Соня абмінула пустую залу, міжволі адзначыла: мама на кухні. Яшчэ з парога ўбачыла на сцяне яе доўгі вычварны цень: кухня аплывала сумессю кволага святла і паўзмроку. Падсветка над плітой натужна гарэла, але не магла распасцерці жоўты круг далей па падлозе. Матчын твар хаваўся ў цені, толькі шчаку кранула румяная плямка. Рука, здранцвелая, быццам нежывая, ляжала на расквечанай цыраце, побач стаяла адкаркаваная бутэлька шампанскага і хрустальны келіх на арыстакратычна тонкай ножцы. У залацістых бурбалках нахабна плёскалася зыркае святло, маці глядзела кудысьці невідушчымі вачыма.

Соня сумелася, не ведала, што сказаць. Нарэшце выціснула з сябе сіплы шэпт:

— Ма, ты што гэта?

Мама крыху выпрасталася, усміхнулася адчайна і весела:

— Няўжо не магу я справіць невялічкае свята? А ты ўжо надзьмулася, бач, пані наглядчыца! — жартоўна ўзлавалася, але Соня яе перапыніла:

— Кінь… Я ж не сляпая…

Дзяўчына зразумела б, каб маці разыграла здзіўленне, замахала рукамі, пачала аднеквацца. Але тая пракаўтнула штучныя словы, бездапаможна перасмыкнула плячамі і адвярнулася, больш не глядзела на дачку. Затое Соня маўкліва вывучала дарагое, з маленства знаёмае абліччa: знікла з матчынага твару падробка-радасць, мільганула абыякавасць, нарэшце праступілі безнадзейнасць і журба. Упершыню кінулася ў вочы танклявая, зусім дзіцячая маміна шыя, сцягнутая даўкім немым болем…

Соня варухнулася, падышла да шафы, узяла яшчэ адзін келіх. Сухія матчыны вусны таргануліся:

— Сонечка, ты ж не п'еш…

— Але, не п'ю. Гэта каб табе менш засталося…

У глухой цішыні сумна і трывожна дзінькнуў крышталь, разляцеліся, бездапаможна згаслі асколкі некалі зіхоткага шкла.

— Разбіла… Здаецца, на шчасце?

— Канечне, мам… Вясна пачынаецца. Мы дачакаліся…

# Дуда як брэнд

Дудар, бард, перкусіяніст, дызайнер, даследчык гісторыі беларускай дуды Яўген Барышнікаў — адзін з куратараў Беларускага Дударскага Клуба, намеснік старшыні Студэнцкага Этнаграфічнага Таварыства. Напрыканцы мінулага года Яўген, а таксама Дзяніс Сухі і Стась Чавус сталі першымі беларусамі-ўдзельнікамі міжнароднага дударскага фестывалю ў Швабіі (Германія), куды прыязджаюць дудары з усёй Еўропы. Гутарку з маладым музыкам і даследчыкам спрабую пачаць з пытання пра яго песенную творчасць, але ён перапыняе: гэта нецікава, лепш пра дуду!



Марына ВЕСЯЛУХА

**— Поспехам дударскага руху на Беларусі можна толькі пазайздросціць. Ужо нават школьнікі ведаюць, што існуе такі беларускі інструмент, як дуда…**

— Сапраўды, мы тут маем адзін з самых актыўных, калі не самы актыўны сярод суседзяў рух па рэвіталізацыі інструмента цягам апошніх 5 — 10 год. Ні ў Польшчы, ні ў Літве такога няма. Ёсць танцавальныя суполкі, але каб з дудой! Мы калісьці прыязджалі на танцы да літоўцаў. Яны граюць мелодыі на скрыпках, гармоніках, а мы гралі на дудах. Яны ж нават не ведалі, што на дудах можна граць танцы. У ансамблях мелі гэтыя інструменты, але не ведалі, навошта яны патрэбныя. Вось і яны, на нас паглядзеўшы, пачалі граць танцы на дудах. У Польшчы дударская традыцыя жывая, але я не бачыў, каб гарадская моладзь надта цікавілася інструментам. На Украіне, у Карпатах, ёсць майстры, якія захоўваюць традыцыю, да іх прыязджаюць даследчыкі з розных краін, а самім украінцам гэта не так цікава…

Але на фоне поспехаў парадаксальныя падаюцца іншыя факты. На дударскай карце Еўропы Беларусь — «белая пляма». Дагэтуль няма ніводнай публікацыі пра беларускія дуды на англійскай мове. У класічнай працы Энтані Бэйнса 1950-х гадоў, дзе ён апісвае дуды розных краін, пра беларускі інструмент — толькі некалькі сказаў. Не сказаў бы, што ў свеце знойдзецца надта шмат людзей, якія цікавяцца гэтай тэмай, але яны вельмі актыўныя, імпэтныя. Ладзяцца міжнародныя фестывалі, канферэнцыі, мы ж там амаль не прадстаўлены.

**— Твае заўвагі — нібыта лыжка дзёгцю ў бочку мёду агульнай захопленасці поспехам дударскага руху на Беларусі. Ці сапраўды ўсё так кепска?**

— Цягам апошніх некалькіх год рух быў досыць паспяховы, у выніку сустрэчы Дударскага Клуба з маленькай кавярні перамясціліся ў самы вялікі клуб у горадзе. Але цяпер сітуацыя складваецца так, што людзі, якія арганізоўвалі сустрэчы, шмат год штотыдзень як на працу хадзілі граць у Дударскі Клуб, па маіх адчуваннях, крыху стаміліся. Поспех ёсць, плён ёсць, і ў такім выпадку нам трэба падвышаць планку, адкрываць нейкія новыя гарызонты. Бо нецікава паўтараць тое самае. Трэба шукаць новыя кірункі.

**— Ці ёсць ужо нейкія думкі на гэты конт?**

— Варыянты розныя. Хочацца ўзняць на больш прыстойны ўзровень навуковае асвятленне пытання, бо даследаванні дуды, да прыкладу, Тодара Кашкурэвіча, Зміцера Сасноўскага, што ў нас цяпер выдаюцца, усё ж такі трохі крытычна ўспрымаюцца акадэмічнай супольнасцю. Пры гэтым даследчыкі з Літвы, Аўстрыі, Польшчы ў сваіх працах закранаюць дудовую тэму і вельмі часта карыстаюцца беларускім матэрыялам. У выніку фарміруецца разрыў паміж нефармальным дударскім рухам і акадэмічнымі супольнасцямі. Хочацца гэтыя плыні неяк звесці — зачыніць у адным пакойчыку і не выпускаць да канчатковага высвятлення ўсіх пытанняў, так бы мовіць, пакуль белы дым з трубы не пойдзе. У прынцыпе, мы робім адну справу, але з розных падыходаў.

Нядаўна мы заявілі стварэнне дударскай панэлі ў межах Міжнароднага кангрэса даследчыкаў Беларусі, што адбудзецца ўвосень у Каўнасе. Заяўку падтрымала вядомы этнамузыколаг Іна Назіна. Важна, што да ўдзелу ў абмеркаванні будуць запрошаныя не толькі беларускія, але і замежныя даследчыкі, якія працавалі з гэтай тэмай. Напрыклад, Рута Жарскене з Вільнюскага інстытута літаратуры і фальклору, якая апрацоўвала запісы дудара Ёзаса Вальдэмараса 1908 года з Берлінскага фонаархіва. Ульрых Маргенштэрн, музыказнаўца, які цяпер працуе ў Вене, яго тэма — музычная культура заходніх рэгіёнаў Расіі. Ужо апублікавана некалькі матэрыялаў Ульрыха па так званай «рускай валынцы», распаўсюджанай у заходняй Смаленшчыне, заходняй Цвершчыне і паўднёвай Пскоўшчыне. Але ж навукоўцы, нават расійскія, гэтыя памежныя тэрыторыі адносяць да сферы беларускіх уплываў. У Варшаве працуе прафесар Пшэрэмбскі, ён выдаў дзве грунтоўныя манаграфіі па дудах Рэчы Паспалітай, дзе таксама разглядае беларускія тэрыторыі. Хацелася б усіх гэтых людзей звесці, прадставіць нашы «фармальныя» і «нефармальныя» даследчыцкія рухі, проста паказаць узровень даследаванняў дуды ў свеце, каб і нашым навукоўцам задаць планку, і замежнікам паказаць свой пункт гледжання. Спадзяюся, усё атрымаецца.

**— А вось ты сам да каго больш схіляешся: да афіцыйнай суполкі даследчыкаў дуды ў Беларусі ці неафіцыйнай?**

— Натуральна, да неафіцыйнай, бо сам да яе адношуся. Я лічу, што някепска, калі традыцыйная культура аналізуецца акадэмічнымі супольнасцямі, пішуцца манаграфіі, адбываецца акадэмізацыя музычнай, спеўнай культуры. Гэтым займаюцца даследчыкі-прафесіяналы. Але вывучэннем традыцыйнай культуры займаюцца і прадстаўнікі іншых прафесій, да прыкладу, інжынеры, мастакі. Ім гэта проста цікава, яны ні ў якім разе не могуць назваць сябе прафесіяналамі. Ды ў дзейнасці гэтых людзей значна больш шчырасці, і падыходы да працы больш праўдзівыя. Мне падаецца, народная культура павінна заставацца народнай, а не выносіцца на сцэну і падпарадкоўвацца акадэмічным канонам. Заканамерна, што афіцыйная і неафіцыйная плыні даследчыкаў дапаўняюць адна адну. Першая дае інфармацыю, падыходы, акрэслівае метадалогію, другая яе выкарыстоўвае. Адпаведна, павінна існаваць і зваротная сувязь. У Беларусі ж шмат гадоў гэтыя плыні даследчыкаў дударскай традыцыі — дый у прынцыпе традыцыйнай культуры — былі абсалютна незалежныя, існавалі самі па сабе. Цяпер жа яны збліжаюцца.

**— Сапраўды, шмат зроблена ў нашай краіне ў гэтым кірунку. А што далей?**

— Калі казаць пра перспектывы дударскага руху ў Беларусі, думаецца, трэба збірацца колам зацікаўленых асоб і абмяркоўваць шляхі развіцця дударства. Мне здаецца, што этап стыхійнасці заканчваецца. У адваротным выпадку мы рызыкуем згубіць поспехі і дасягненні, што цяпер маем. Патрэбна вызначыцца, куды мы ідзём, чаго хочам у выніку? Каб дуда была, як гітара, у кожным доме і кожны мог на ёй зайграць просценькую мелодыю? Або хочам, каб існаваў цэх дудароў, якіх запрашалі б на выключныя падзеі кшталту вяселляў, хрэсьбінаў ці нават пахаванняў? Альбо мы жадаем арганізаваць дударскія аркестры, якія будуць сустракаць замежныя дэлегацыі? Фактычна трэба «падшліфаваць» брэнд беларускай дуды, зрабіць яго пазнавальным і ўнутры краіны, і за межамі. Вельмі вялікая праца ў гэтым кірунку ўжо зроблена, і цяпер адзін з важных акцэнтаў дзейнасці — пазіцыянаванне дуды ў свеце.

*“ Патрэбна вызначыцца, куды мы ідзём, чаго хочам у выніку? Каб дуда была, як гітара, у кожным доме і кожны мог на ёй зайграць просценькую мелодыю? Або хочам, каб існаваў цэх дудароў, якіх запрашалі б на выключныя падзеі кшталту вяселляў, хрэсьбінаў ці нават пахаванняў? Альбо мы жадаем арганізаваць дударскія аркестры, якія будуць сустракаць замежныя дэлегацыі? Фактычна трэба «падшліфаваць» брэнд беларускай дуды, зрабіць яго пазнавальным і ўнутры краіны, і за межамі.*

**— Які з варыянтаў брэнда беларускай дуды ты сам лічыш найбольш аптымальным?**

— Па-першае, што такое паспяховы брэнд? Гэта сукупнасць станоўчых асацыяцый, эмоцый, каштоўнасцей, якія атрымлівае чалавек пры сутыкненні з нейкім прадуктам ці з’явою. Прытым унікальная, характэрная толькі для гэтага прадукта сукупнасць, што і дазваляе вылучаць яго на фоне іншых. Што мы маем? Напрыклад, перыядычна вядуцца размовы пра стварэнне дударскага аркестра, і да гэтай ідэі я стаўлюся вельмі крытычна. У маркетынгу ёсць канцэпцыя пазіцыянавання, распрацаваная ў 1970-я гады Траўтам і Райсам. Там робіцца акцэнт на тое, што брэнду, каб стаць паспяховым, трэба вызначыцца са сваімі адметнасцямі, адрозненнямі ад іншых брэндаў-канкурэнтаў. І з такога маркетынгавага пункту гледжання сітуацыя бачыцца наступным чынам: ёсць сусветны дударскі рынак, дзе прадстаўлены розныя брэнды: шатландская, шведская, галісійская дуды, дуды з іншых краін. Ніша дудовых аркестраў даўно занятая шатландцамі, і любыя спробы зрабіць такі аркестр у нас будуць выглядаць трохі смешна, камічна і ўспрымацца як пародыя ці спроба паўтарыць тое, што раней зрабілі яны. Мне падаецца, гэта тупіковы шлях.

У кожнага з дудовых брэндаў іншых народаў ёсць свае адметныя рысы: у галісійцаў моцнае, вельмі тэхнічнае сольнае выкананне; у балгараў дудары дагэтуль абавязкова граюць на вяселлях; шведская сакпіпа — камерны ціхі інструмент, з якім добра сесці дома і зайграць прыгожую мелодыю. Калі казаць пра брэнд беларуска-літоўскай дуды, ён таксама мае сваю адметнасць. Гэта вельмі моцная міфалагізаванасць інструмента, яго ўплеценасць у традыцыйную абраднасць. Пры гэтым нават сёння гэтая абраднасць захоўваецца. І перспектывы выкарыстання дуды на Беларусі могуць быць у тым, каб дудары акрамя ўдзелу ў танцавальных вечарынах былі запатрабаваныя ў якасці абавязковых удзельнікаў абрадаў. Пры гэтым сольнае выкананне тут вельмі важнае. Мы ж кажам, што дудар у нас паводле архетыпу набліжаны да святара, чарадзея. А мясцовыя знахары «чаруюць» паасобку, гэта досыць сакральны, інтымны працэс. Таму 2-3 дуды яшчэ, мабыць, могуць граць разам, як вельмі добра знаёмыя чараўнікі, грунтуючыся на асабістым даверы, хаця і не без канкурэнцыі. Але калі інструментаў цэлы аркестр — гэта ўжо не наша эмоцыя, дый на нашых землях няма гістарычных згадак пра такое выкананне. Дуда ўсё ж такі сольны інструмент.

Яшчэ адзін варыянт працы па папулярызацыі інструмента — экспансія. Можна ездзіць па гарадах і распавядаць пра дуду, наведваць фестывалі ў іншых краінах. Па сутнасці, гэта евангелізм, такі тэрмін існуе ў сферы інфармацыйных тэхналогій: мы нясём навіну іншым і самі ў яе шчыра верым.

**— Сёння дуда ўсё больш і больш актыўна выкарыстоўваецца ў сучаснай музыцы: фолк-метал-гуртом *Litvintroll*, фолк-панк-калектывам «Кашлаты Вох», танцавальным электронным праектам *Pawa*, іншымі… Як ты ставішся да гэтага?**

— Мне вельмі падабаецца, што цяпер робяцца спробы ўжыць дуду ў абсалютна рознай музыцы. Гэта развіццё інструмента. Тут няма вялікай міфалогіі, гэта проста спробы выкарыстаць дуду па яе наўпроставым прызначэнні. Эксперыменты з музыкай рознага кшталту я гатовы толькі падтрымліваць. Вельмі добра, што ў нас гэта робіцца. Але хацелася б, каб гэты брэнд выклікаў асацыяцыі, больш звязаныя з абрадавымі практыкамі кшталту вяселляў, пахаванняў, каб выкарыстоўваўся як сольны ў якасці акампанементу танцам.

**— Чаму ты сам зрабіў выбар менавіта на карысць даследавання гісторыі дуды?**

— Калі казаць пра даследаванні, то цяпер я шукаю крыніцы па дудах. Летась на канферэнцыю ў БДУКіМ, прысвечаную вывучэнню фальклору, прыязджаў даследчык з Аўстрыі Ульрых Маргенштэрн. Я прачытаў яго артыкул па «казачнай рускай валынцы», і пабачыў, што ў ім выкарыстоўваецца фактагалогія, якая датычыць беларускай тэрыторыі, беларускіх дудаў. Тады зразумеў, што нам на прыстойным узроўні няма што адказаць. Таму ўзяўся і раблю. Практыка паказвае, што проста чакаць непрадуктыўна. І аказваецца, чым далей «капаеш», тым менш ведаеш. Працы ў гэтым кірунку вельмі многа, таму, магчыма, мне так цікава гэтым займацца. Прысутнічае і даследчыцкі азарт: можаш натрапіць на нешта такое, што стане «бомбай». Неяк фінскі даследчык напрыканцы аднаго ліста пажадаў мне добрага палявання. І сапраўды, адчуванне такое, што ты палюеш на нейкія факты і штосьці цікавае можаш знайсці.

Шкада, што мы позна ўзяліся за вывучэнне гэтай тэмы. У 1970-я гады яшчэ маглі знайсці жывых дудароў… Тым не менш адметнасць нашай культуры — у высокай ступені захаванасці архаічнага фальклору ў жывым асяродку. Мы дагэтуль у экспедыцыях сустракаем людзей, якія памятаюць дудароў, асабліва на поўначы Беларусі. І, карыстаючыся выпадкам, я б хацеў папрасіць чытачоў запытацца пра дуды і дудароў у старых людзей сваёй мясцовасці, сваіх бабуль і дзядуль. Гэта вельмі каштоўная інфармацыя, без якой немагчыма стварэнне моцнага, прывабнага, глыбока ўкаранёнага міфа дуды, «брэнда» дуды, калі мы ў такіх катэгорыях тут разважалі. А міф, у адрозненне ад казкі, акурат і мусіць мець пад сабой калектыўную памяць пра рэальныя з’явы, пра праўдзівую гісторыю.

# Нясвіжскі палац ажывае

Падчас апошняга візіту ў Нясвіж, калі адбывалася асвячэнне капліцы ў палацы, нашчадак славутага княжацкага роду Мацей Радзівіл дзяліўся ўражаннямі, што менавіта цяпер, калі капліца асвечаная, палац становіцца сапраўды палацам. Сяргей Клімаў, дырэктар Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» падчас нядаўняй імпрэзы выказаў крыху іншую думку: «Замак ажывае менавіта цяпер, калі пачынае зноў выконваць ролю інтэлектуальнага цэнтра». Думаю, што і спадар Мацей, і Сяргей Міхайлавіч маюць рацыю, бо ў абодвух выпадках душа Нясвіжскага палаца пачынае дыхаць, напаўняецца эмоцыямі, пачуццямі, ведамі.

**Чэслава ПАЛУЯН,**
**фота прадастаўлена Нацыянальным гісторыка-культурным музеем-запаведнікам «Нясвіж»**

Пра што гэта я? А пра тое, што ў Нясвіжскім Палацавым ансамблі распачала работу выстаўка «Кніжная спадчына Радзівілаў». Арганізацыя такой экспазіцыі — сумесная ініцыятыва музея-запаведніка, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, а таксама Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. У межах праекта 90 рэдкіх кніг з княжацкай бібліятэкі на некаторы час вярнуліся ў сцены былой рэзідэнцыі Радзівілаў. Гэта выданні па гісторыі, тэалогіі, праве і навуках, літаратуры, старадрукаваныя кнігі Нясвіжскай друкарні XVIII стагоддзя, творы Радзівілаў і пра Радзівілаў.

— З Нясвіжскага замка заўсёды ўсё вывозілі, і гэты праект незвычайны тым, што пасля 60 год да нас вярнуліся кнігі з княжацкай бібліятэкі, хай і на кароткі тэрмін, — падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця выстаўкі адзначыў дырэктар музея-запаведніка Сяргей Клімаў. — Святло ў выставачнай зале не такое яркае: старадрукі патрабуюць асаблівых умоў захоўвання. На жаль, не ўсе іх мы пакуль можам выканаць, таму і тэрмін «гасцявання» кніг такі непрацяглы.

Пра гісторыю ўнікальнай бібліятэкі Радзівілаў распавёў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі:

— Даследчыкі пагаджаюцца, што гэта была самая лепшая бібліятэка на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, і яна нам цікавая па некалькіх крытэрыях. Па-першае, Радзівілы заснавалі не адну тыпаграфію і ў сваёй бібліятэцы захоўвалі тое, што імі выдавалася, таму мы можам казаць, што бібліятэка Радзівілаў, якая знаходзілася ў гэтым замку, фактычна выконвала функцыі Нацыянальнай. Па-другое, тут былі сабраныя сапраўды лепшыя кнігі, якія ствараліся на тэрыторыі Еўропы цягам некалькіх стагоддзяў, а таксама лепшыя выданні з Усходу, са Святой Зямлі. Пераацаніць гэтыя калекцыі вельмі цяжка. Вядома, што ў 1772 годзе ў Радзівілаў было каля 24 тысяч каштоўных, унікальных кніг. На жаль, з гэтай даты



*Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі падчас адкрыцця выстаўкі распавядае пра гісторыю славутага кнігазбору Радзівілаў.*

пачынаецца адлік у іншы бок, калі бібліятэка разбураецца. Але да 1812 года яна ўсё ж існавала, менавіта гэтай датай пазначаны вываз каштоўнасцей з замка, у тым ліку і кніг…

Лёс кніжнай калекцыі Радзівілаў не вельмі шчаслівы. Акадэмія навук у Пецярбургу, Масква, пажар, калі кнігі былі залітыя вадой падчас тушэння агню… Тым не менш беларускія навукоўцы ўжо колькі год не пакідаюць надзею ўзнавіць гэтую ўнікальную бібліятэку, хоць і ў электронным выглядзе. У межах праграмы «Радзівіліяна», якую падтрымлівае ЮНЕСКА, вядзецца актыўная праца па стварэнні каталогаў бібліятэкі Радзівілаў, якая цяпер раскіданая па розных гарадах і краінах. Такое выданне, а менавіта кніга «Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі», было прадстаўлена падчас урачыстай імпрэзы ў Нясвіжы. Гэты каталог — па сутнасці поўнае апісанне выданняў XVII стагоддзя з кніжных збораў, што цяпер захоўваюцца ў фондах ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

— Кожны раз, калі княжацкай бібліятэцы наносіўся нейкі ўрон, Радзівілы зноў упарта збіралі кнігі, узнаўлялі кнігазборы. Адметна, што чытачамі гэтай бібліятэкі былі не толькі людзі з асяроддзя Радзівілаў, але і ўсе тыя, каму былі патрэбныя кнігі. Пра гэта яскрава сведчаць шматлікія паметы на старонках выданняў, — падкрэсліла дырэктар ЦНБ НАН Беларусі Наталля Бярозкіна. — Напярэдадні вайны радзівілаўскі збор паступіў у бібліятэку Акадэміі навук БССР. На жаль, не ўсе кнігі тут паспелі апрацаваць, бо потым каштоўныя выданні былі вывезены з Беларусі, і не ўсе асобнікі вярнуліся на Радзіму, не ўсе зноў трапілі ў бібліятэку Акадэміі навук. Цяпер у нас захоўваецца больш як 3,5 тысячы кніг з Радзівілаўскага збору. Сёння некаторыя выданні вярнуліся дадому, у палац, аднак іх дом ужо стаў музеем, таму кнігі тут толькі «ў гасцях». Бібліятэка ж робіць выданні больш даступнымі для чытача і даследчыка.

*Унікальны праект*

# Самае лепшае месца на зямлі

У выдавецтве «Беларусь» пры фінансавай падтрымцы Замкавага комплексу «Мір» не так даўно пабачыла свет унікальная кніга. Гэта работа Анатоля Федарука «Старажытныя сядзібы Беларусі. Карэліцкі раён». Таму сімвалічна, што першая прэзентацыя гэтага выдання прайшла менавіта ў Карэлічах, у будынку кінатэатра, на месцы, дзе, магчыма, калісьці былі сады ці паркавая зона маёнтка Радзівілаў, а магчыма, стаяў палац.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота прадастаўлена Замкавым комплексам «Мір»**

На карэліцкай зямлі пад ахоўвай дзяржавы знаходзіцца 29 аб'ектаў археалогіі, архітэктуры, помнікаў гісторыі Беларусі, яшчэ каля двух дзясяткаў у гэты спіс не ўвайшло, таму надзвычай важна не згубіць тое, чым жыла Карэліччына на працягу стагоддзяў. З часу выдання кнігі «Памяць», прысвечанай гэтай мясцовасці, прайшло амаль дваццаць гадоў. І вось цяпер зроблены новы крок у гісторыі вывучэння краю. Працу Анатоля Федарука «Старажытныя сядзібы Беларусі. Карэліцкі раён» можна назваць сапраўднай энцыклапедыяй гэтай зямлі.

Дырэктар замкавага комплексу «Мір» Вольга Папко падчас прэзентацыі кнігі падкрэсліла:

— Гэтае выданне — не першае для Мірскага замка, але мы вельмі ўдзячны аўтару. І вельмі рады, што ў нас з'явілася магчымасць надрукаваць кнігу з такой выдатнай паліграфіяй: цяпер і жыхары Карэліччыны, і шматлікія турысты, якія наведваюць Мірскі замак, могуць пазнаёміцца з гісторыяй сядзіб. Нам сапраўды ёсць чым ганарыцца.

Доктар біялагічных навук, даследчык Анатоль Федарук больш як 30 гадоў займаецца вывучэннем сядзіб. А з якой любоўю, з якім замілаваннем распавядае Анатоль Тарасавіч пра «герояў» сваёй кнігі! Здаецца, ён не проста летапісец, даследчык, але і мастак, філосаф:

— Звяртаючыся сёння да сядзібнай архітэктуры краю, я адначасова звяртаюся да асаблівай зямлі. Высокую ацэнку ёй даў мастацтвазнаўца, фатограф Ян Булгак. Ён пісаў, што гэта адзіны ў свеце самы прыгожы край яго дзяцінства. З гэтай зямлёй звязаны імёны не проста шляхецкіх і магнацкіх родаў, гэта найбольш знакамітыя фаміліі: Гаштольды, Чартарыйскія, Хадкевічы, Радзівілы, Несілоўскія, Раеўскія, Кашчыцы, Умястоўскія і цэлы шэраг іншых. Адметна, што сядзіба — гэта не толькі ўвасабленне матэрыяльнай культуры, будынкі, малыя архітэктурныя формы, расліны, вадаёмы, каштоўнасці. Цяпер спецыялісты ўсё часцей кажуць пра іншае: сядзіба — гэта той свет, той дом, які фарміраваўся і развіваўся як ідылія, утопія. Гэта месца, якое павінна існаваць без супярэчнасцей, і ў гэтым самым лепшым месцы на зямлі павінен фарміравацца будучы нашчадак — шляхціц, які валодае пераемнасцю, ён павінен быць вышэйшы, лепшы і яшчэ больш высакародны, чым прадстаўнікі папярэдніх пакаленняў. Менавіта ў сядзібах па-філасофску разважалася пра сэнс быцця, пра чалавечыя каштоўнасці. Сядзіба — гэта сямейныя традыцыі, гэта штодзённае жыццё, высокая земляробчая культура, садоўніцтва, садова-паркавае мастацтва, вялікія калекцыі.

Распавёў Анатоль Тарасавіч і пра адметнасці беларускіх сядзіб, якія будаваліся ў адпаведнасці з усімі еўрапейскімі канонамі. Напрыклад, сядзіба ў Варончы не мела межаў. Не таму, што ўладальнікі не пажадалі будаваць агароджы, а таму, што гэта адзін з рамантычных матываў. Межы лічыліся перашкодамі свабоды, вольнасці. Таму сядзіба нібы



*Дырэктар Замкавага комплексу «Мір» Вольга Папко з гонарам прадстаўляе кнігу Анатоля Федарука «Старажытныя сядзібы Беларусі. Карэліцкі раён».*

«злівалася» з навакольнай мясцовасцю, была ў той жа час і мікрасветам, і часткай сусвету. Важным элементам амаль кожнай сядзібы была ўсыпальніца. Яна будавалася на віднам месцы, часцей за ўсё пры ўязной дарозе, і сімвалізавала хуткаплыннасць жыцця, сувязь пакаленняў, нібыта нагадвала: трэба памятаць продкаў, цаніць іх. Дрэвы — самыя верныя сябры сядзібы: алеі не проста акрэсліваюць кірунак руху, яны з'яўляюцца пераходам з рэальнага свету ў свет ідэальны.

Напрыканцы прэзентацыі аўтар прызнаўся:

— Падчас падрыхтоўкі кнігі мне ў выдавецтве казалі, што я зрабіў надта шмат фотаздымкаў палёў. Але палі — гэта і ёсць зямля, па сутнасці яна «нараджала» сядзібу. У выданні таксама можна заўважыць, што я звяртаю ўвагу на нібыта другасныя рэчы: расліны, траву, крыніцу, дрэвы. Гэта таксама невыпадкова, бо з маленькіх крупіц і фарміруецца паняцце радзімы. Трэба бачыць у іх прыгажосць, ісці ад маленькага да вялікага.



## Маладзічок

# Акадэмія пана Чарняўскага

Міхась СЛІВА

Аказваецца, даведацца пра сакрэты аграноміі зусім не цяжка — трэба толькі прачытаць аповесць знакамітага дзіцячага паэта і празаіка Міколы Чарняўскага «Акадэмія на колах, альбо За вясёлкай наўздагон». Змешчана гэтая дэтэктыўнапрыгодніцкая гісторыя ў новай кнізе пісьменніка «Босая кавалерыя» («Мастацкая літаратура», 2013).

Аўтар — лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, літаратурных прэмій імя Янкі Маўра, Васіля Віткі, «Залаты Купідон» — захапляльна распавядае пра прафесію агранома, паказвае, якая яна цікавая і рамантычная. Працуючы над аповесцю, пісьменнік перачытаў нямала спецыяльнай літаратуры, не раз сустрэўся з аграномамі, гутарыў з вяскоўцамі сталага веку, якія за свае жыццё навучыліся «бачыць» зямлю, спазналі яе сакрэты і таямніцы. М. Чарняўскі выкарыстаў іх назіранні, земляробчы вопыт, мудрасць.

У новай кнізе змешчаны яшчэ дзве аповесці і некалькі апавяданняў.

Герой аповесці «Бегунок пачынае думаць» — хлопчык з «камчаткі», шасцікласнік Міця Бегунок. Гісторыі з яго жыцця, часам вясёлыя, а часцей — не зусім, заінтрыгуюць школьнікаў. Улічваючы, што твор узнаўляе некаторыя старонкі дзяцінства самога аўтара, Мікалай Мікалаевіч папярэджвае: «Прадчуваю, што ён (Міця Бегунок. — **М. С.**) можа здацца вам да смешнага наіўным, як цяпер кажуць, «зацыкленым», нібыта насельнікам нейкай іншай планеты. Такімі ж могуць падацца і астатнія персанажы аповесці — яго сябры, аднакласнікі, школьнікі таго далёкага ад вас часу. Аднак не сумнявайцеся ў адным — у праўдзівасці падзей і тых прыгод, што адбываліся з Бегунком і яго сябрамі, паверце, калі не яму, выдумшчыку і нядачніку паняволі, дык мне, яго "хроснаму бацьку"».

Надзвычай цікавай з'яўляецца змешчаная ў кнізе аповесць «Босая кавалерыя». Гэта твор таксама пра час, у які жыў і вучыўся пісьменнік, пра хлопцаў-равеснікаў яго пакалення і крыху — пра самога аўтара. Аповесць захопіць у палон не толькі юнага, але і дарослага чытача. Тупат ад «Босай кавалерыі» Міколы Чарняўскага вяртае нас «на сцежкі маленства, дзе, магчыма, яшчэ дагэтуль не знойдзенай сумуе падкова шчасця — для кожнага дарагая, запаветная і знакавая».




# Са спадзяваннем на ўзаемнасць

**Вельмі хочацца пачаць лірычна: «Краіна, з якой усе мы родам і да якой раз-пораз вяртаемся ў думках…» Насамрэч, успаміны пра першыя гады нашага жыцця вельмі розныя. І шмат таго, што свядома хаваеш у як мага далейшыя куткі памяці, — таксама адтуль. Таму шчырая прыпавесць пра яе чалавека, якому давялося шмат пабачыць за доўгае жыццё, заўсёды будзе цікавай. Павелічальнае шкло пражытых гадоў дазваляе чытачу ўбачыць вытокі характараў і прыкметы цэлай эпохі.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Кніга Міколы Чарняўскага «Босая кавалерыя» — менавіта такая прыпавесць. У яе ўвайшло некалькі апавяданняў і аповесці «Босая кавалерыя», «Акадэмія на колах, альбо За вясёлкай наўздагон», «Бегунок пачынае думаць». Месца і час дзеяння акрэслены: пасляваенныя савецкія гады, вёска… Якім было дзяцінства без камп'ютара? Запрашаючы ў вандроўку ў яго, Мікола Мікалаевіч прызнаецца: на іншае не памяняў бы, а вось калі б дазволілі пражыць яшчэ раз, не адмовіўся б.

У прадмове «І трошкі — пра сябе» аўтар расказвае, што кніга праверана доўгім часам. Нешта друкавалася ў перыёдыцы, нешта чакала ў пісьменніцкай шафе добрую палову жыцця, пакуль ён вырашаў, ці будзе гэта гісторыя цікавай. У рэшце рэшт прыкметы — можа, занадта схематычныя, занадта тыповыя для той пары — сталі выразным сімвалам краіны, якой больш няма на карце.

Дзіцячая літаратура вельмі адчувальная да маштабных змен у грамадстве. Казку пра старога Хатабыча, заідэалагізаваную, сёння трэба выдаваць з тлумачальнымі зноскамі на шмат старонак. З «Босай кавалерыяй» такога не адбылося. Аднак вёска для вялікай колькасці сённяшніх дзяцей — амаль іншая планета. І не дзіўна, што маленькім гараджанам трэба тлумачыць, хто такі аграном і як вырошчваць «другі беларускі хлеб» — бульбу. Ды і няшмат каму з вясковых хлопчыкаў давялося пасвіць коней…

Нягледзячы на «правільныя» акцэнты савецкага часу, калі ў традыцыях сацрэалізму «лепшае змагалася з найлепшым», героі Міколы Чарняўскага — рэальныя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія толькі пачынаюць рабіць першыя крокі ў дарослы свет, упершыню сустракаюцца са здрадай, жорсткасцю, і ў той жа час — з вялікай дабрынёй і мудрасцю, бо людзі вакол іх вельмі розныя.

Дзіцячыя «жарты» маюць вельмі небяспечныя вынікі: пажарам мог скончыцца эксперымент хлопчыкаў, калі яны прывязалі верабейку змочаную ў салярцы вату і падпалілі яе. Са зламанай нагой трапляе ў бальніцу ахвяра іншага злога «жарту». Са слязьмі вучыць урокі ўпартая Зіна, а аднакласнікі ўпэўнены, што «пяцёркі самі ёй у дзённік лезуць». Кемлівы Міця выпраўляе на старонках дзённіка дрэнныя адзнакі не вучобай, а хімрэактывамі. Але ж дзякуючы настаўніцы, якая не толькі зразумела, але і здолела пераканаць калег, каб заплюшчылі вочы на паспяховасць па дакладных навуках, раскрыўся паэтычны талент другагодніка. Яна, уважлівая жанчына, яшчэ і накарміла пакінутага пасля заняткаў. Як жа помніцца той бохан хлеба, ці не напалову ўмяты! А лепшым урокам патрыятызму застаецца гісторыя пра закатаванага фашыстамі героя-падлетка Юрку, расказаная старым суседам па бальнічнай палаце. І неўпрыкмет малому слухачу, што стары гаворыць пра ўласнага сына…

Мікола Чарняўскі прызнаецца: штуршком для выдання гэтай кнігі сталі шматлікія пытанні школьнікаў пра яго дзяцінства, якія часта задаюцца падчас літаратурных сустрэч. Так, рабіў урокі пры святле газоўкі, радыё і тэлебачання не было, а кожную кнігу з бібліятэкі перачытваў не адзін раз, бо малавата кніг было ў бібліятэцы… І родныя ўнукі часам не верылі: «Не выдумляй, дзед, такога не магло быць». Таму і пастараўся шчыра і падрабязна выкласці не толькі факты — перадаць чароўнае адчуванне шчасця, якое заўсёды знітавана з дзяцінствам. Якім бы тое ні было. Меркаваць, ці вартая кніга прыхільнасці, аўтар прапануе чытачам.

## Час чытаць

# Арыенціры ў патоку


Фота з сайта www.belkniga.by

**Дзіцячы пісьменнік Андрэй СМЯТАНІН:**

— Як чытач я ў пастаянным пошуку: змяняюцца інтарэсы — змяняюцца і кнігі, якія захапляюць. Апошнім часам вялікае месца ў жыцці займаюць праваслаўныя выданні. Адносна нядаўна мяне «накрыла творчай хваляй» — стаў дзіцячым пісьменнікам, што адбілася на маім чытацкім меню. У ім сёння шмат дзіцячай літаратуры, і асабліва паэзіі. Пасада старшыні праўлення Міжнароднага творчага аб'яднання дзіцячых аўтараў гэты паток павялічыла. Тым добрым, што ў ім трапляецца, захацелася падзяліцца — у выніку стаў вядучым рубрык для дзяцей у некалькіх беларускіх часопісах, а з красавіка займаюся і выпускам літаратурнага дадатку ўсерасійскай чазеты «Школьнік». Як дзіцячы аўтар арыенцірамі лічу творчасць выбітных паэтаў Ігара Шаўчука («таты» «Смяшарыкаў», у ліку іншага), Міхаіла Яснова. Да таго ж, яны насамрэч сталі маімі настаўнікамі.

З таго, што прачытаў не так даўно, параіў бы ўсім, незалежна ад стаўлення да веры, кнігу архімандрыта Ціхана (Шаўкунова) «Несвятыя святыя». (Выданне стала «Кнігай года» ў Расіі, тыраж яго перавысіў мільён (!) экзэмпляраў.) Яшчэ раман «Калі адпачываюць анёлы» маскоўскай пісьменніцы Марыны Арамштам. Калі б гэта залежала ад мяне, уключыў бы яго ў праграму ўсіх педагагічных ВНУ. І, канечне, педагагічнае эсэ французскага пісьменніка Даніэля Пенака «Як раман» — пра тое, як зрабіць дзіця аматарам чытання.

## Прэзентацыя

# Слонім: краязнаўчы лікбез




**Выпраўляючыся ў падарожжа ў незнаёмы ці малазнаёмы горад, звычайна шукаеш у кнігах і сецiве звесткі пра адметныя мясціны, якія варта было б наведаць. Цяпер, калі нехта пажадае пазнаёміцца з гісторыяй Слоніма і Слонімшчыны, варта будзе зазірнуць толькі ў «Слонімскі буквар». Менавіта так называецца новы даведнік па горадзе і раёне. Не так даўно ён пабачыў свет у выдавецтве «Кнігазбор», аўтар — вядомы краязнаўца і пісьменнік Сяргей Чыгрын.**

Прызнаюся, калі атрымала гэтую кнігу ў падарунак ад аўтара — дарэчы, майго земляка, — была трохі абураная. Хіба можна звычайны краязнаўчы даведнік, невялікую кніжачку, назваць гучным словам «Буквар»? Як можна з усяго мноства інфармацыі выбраць сапраўды карысную, цікавую не толькі слонімцам і ўраджэнцам горада, але і яго патэнцыяльным наведвальнікам з іншых рэгіёнаў краіны? Але потым, чытаючы кнігу, пераканалася: усё правільна, аўтар мае рацыю. Бо ў выданні ў досыць сціслай, лаканічнай форме прадстаўлены асноўныя звесткі пра Слонім, яго мінуўшчыну і сучаснасць. Аўтар кнігі надаў расповедам прывабную форму, яны чытаюцца хутка і з задавальненнем, аднак акцэнтуюць увагу на патрэбных звестках і фактах. Больш за тое, да артыкула на кожную літару алфавіта падаюцца шыкоўныя ілюстрацыі.

Цяпер аматар падарожжаў, выпраўляючыся ў Слонім, будзе дакладна ведаць, што ў раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага варта перш за ўсё шукаць «унікаты» — язычніцкі каменны ідал X ст., Статут Вялікага Княства Літоўскага на польскай мове 1648 года выдання, фрагмент драўлянага водаправода, пракладзенага ў XVIII ст. Міхаілам Казімірам Агінскім, бронзавы бюст Напалеона Банапарта, выкананы ў 1885 годзе… А каб пабываць на магіле знакамітага краязнаўцы і заснавальніка музея Язэпа Стаброўскага, трэба ехаць у вёску Орлавічы, што ў Слонімскім раёне.

З такім даведнікам падарожжа па горадзе і раёне стане больш цікавым. Але ўпэўнена, шмат яшчэ засталося «за кадрам» выдання, таму чакаем наступнага, магчыма, больш падрабязнага даведніка-дапаможніка.

Марына ВЕСЯЛУХА

# О тленном и вечном замолвите слово...

Татьяна СТУДЕНКО

Книга **«Ценность и личность» архиепископа Иоанна (Шаховского)** издана по благословению Высокопреосвященнейшего Митрополита Минского и Слуцкого, Патриаршего Экзарха всея Беларуси Филарета. Это не случайно: архиепископ Сан-Францисский Иоанн (Шаховской; 1902 — 1989) — талантливейший проповедник, писатель и педагог, признанный и переведённый в десятках стран мира. Каждое слово его напитано светом духовности, любви и заботы о человеке и, что не менее ценно, стремлением понять и быть понятым. Отсюда — проникновенное, тонкое и доходчивое слово Владыки Иоанна. Встреча с ним — несомненно, событие в опыте каждого, независимо от конфессиональной принадлежности и ортодоксальности воззрений («Религиозным можно назвать человека, ценности которого не только на земле, но и на небе»).

Архиепископ Иоанн исходит из православного мировидения: «Свет мира — это правда Христова... Духовное тепло мира — это любовь Христова». «Человек рождается физически, чтобы приготовить себя к высшему рождению — в вечность». Именно поэтому важна духовная составляющая жизни, интенсифицирующая присутствие здесь-и-теперь и приготовляющая ко встрече с Вечным. Наставление Иоанна, каким бы разнообразным оно ни было, всё время имеет в виду этот «синергизм».

Говоря о разнообразии духовной беседы, мы имеем в виду множество контекстов, в которые оказывается помещён ведущий «синергийный» смысл. Как, например, научиться различать в своём повседневном опыте сущностное и преходящее — «природу» и «благодать»? Диалектика этого различия напомнит читателю знаменитую дихотомию *Drung und Geist* (Порыва и Духа) в изложении немецкого философа Макса Шелера, точно так же приведя к мысли о необходимости примирения противоположностей — Любовью. Разнообразию проникновенной беседы Архиепископа Шаховского служат также опыт и тексты святых отцов прошлого, опыт светских людей самых различных национальностей — тех, кто пришёл к Богу через Откровение Христа.




Несомненно, ценен для Иоанна собственно библейский («ветхозаветный») опыт: на современном языке он трактует наиболее привычные мифы — настолько привычные, что современный человек часто перестаёт принимать их всерьёз: об Адамовом грехе, Великом Потопе, манне небесной... Нам показалось особенно трогательным напоминание о 12 коленах Израилевых в контексте «гуманности рождения» (ответа на демографический кризис современной урбанистической цивилизации): что, если бы Иаков остановился на трёх «коленах» (достаточно, мол), в то время как из четвёртого, Иудина, рода вышел Христос, спаситель человечества, а из одиннадцатого — Иосиф, спаситель еврейского племени?..

Проникновенности и доступности Иоаннова наставления, христианскому обоснованию Божественного служат и неканонические тексты: в частности, Евангелие от Фомы и, в особенности, свитки Мёртвого моря, в которых наиболее очевидна преемственность библейского и евангельского учений, синтезированных в манускриптах ессеев.

Не случаен акцент Учителя на духовных историях людей науки, от которых он не устаёт ожидать, в первую очередь, нравственной установки. В целом книгу «Ценность и личность» можно было бы назвать Посланием веку науки (по аналогии с Посланиями апостолов), имея в виду не только учёных и научный мир, но всю современную действительность, век технологии и техники.

# Историческая сенсация

Лея ХАШИМБА




ООО «Харвест» представляет уникальный проект **Г. Носовского, А. Фоменко «Западный миф. «Античный» Рим и «немецкие» Габсбурги. Наследие Великой Империи в культуре Евразии и Америки»**. Вглядимся в кавычки: они указывают, что привычные с детства понятия и имена — не что иное, как фальсификация!

Авторы опираются на новую — альтернативную — хронологию, установленную ими на основе математических методов, изложенных в более ранних книгах. Они пока не претендуют на полную достоверность дат и ряда тезисов, подчеркивая их гипотетичность, но с полной ответственностью заявляют о том, что не было и нет никаких надёжных обоснований существующей исторической хронологии.

Более того: она навязана человечеству путём искажения и целенаправленного редактирования документов. «Всё это имело место в XVII — XVIII вв. в ходе международной европейской программы по переписыванию древней и средневековой истории. Программа имела мощную государственную поддержку как в странах Европы, так и в романовской России». В результате историки, думающие, будто они изучают древнюю и средневековую историю (эти понятия, кстати, тоже берутся в кавычки), на самом деле анализируют искусственный мир, сказочный фантом-мираж.

Зачем и кому понадобился такой грандиозный исторический «театр»? Авторы исходят из того, что существующая версия истории была следствием крупнейшего политического переустройства мира в конце XVI — начале XVII вв. После крушения Монгольской (в кавычках!) Империи на её осколках возникли небольшие — современные европейские и азиатские — государства. Прежние имперские наместники стали независимыми владыками. Поначалу они боялись возвращения старого порядка, поэтому стремились создать в историческом прошлом давние прочные корни своей власти. И нам не следует удивляться согласованности их действий, ибо до конца XVI в. все наместники были из одного круга имперских чиновников и (продолжая рассуждение в заданном ключе) одинаково стремились стереть следы недавней бесславной зависимости, так сказать — колониального прошлого.

Поскольку все значительные тексты, которые могли бы рассказать правду, тщательно уничтожались, остаётся искать её в «мелочах», тех «невычищенных» остатках истины, которые сохранились случайно. И таких мелочей оказывается достаточно для многотомного проекта.

Читателю предстоит кардинальная «перетасовка» исторической памяти, начиная с факта, что облик и языковая картина «средневековой» Европы были полностью славянскими, под властью «библейской Руси», а все более ранние («древние») исторические факты — не более чем «апокрифы» не таких уж древних времен. Это удивляет? Вызывает недоверчивую усмешку? Пренебрежительную мимику? Но перед нами исследование! Многотомное, аргументированное, профессорско-московско-университетское. Чтобы увериться в своей недоверчивой правоте и адекватности официальной исторической версии, придется-таки версию вспомнить, иначе говоря — освежить свои исторические познания. И тогда — держись, профессура! Но вдруг она права?!.

# Вместо плиты — цветы!




Хобби новейшего времени — это кулинария. Почему бы и нет? Кулинарный опыт столетий изучен, обобщён, систематизирован, быт налажен, цивилизация — способствует и даже требует в условиях засилия фаст-фудов и прочих неблагоприятных для желудка «вызовов современности». Исходя из этого, современный вкус и современный организм страждут кулинарных изысков — и не какой-нибудь ресторанной, а домашней, родной кухни.

Анна СКОЛЬЦОВА

В незапамятные времена для приготовления обеда или ужина человеку требовался всего лишь костёр (очаг). Современным хозяйкам предлагают помимо «элементарных» микроволновых печей аэрогрили, пароварки, тостеры, ростеры... Учитывая наличие множества других кухонных приборов и приспособлений, похоже, что кухня вскоре превратится в парк высоких технологий и утратит то неповторимое, что ей «от природы» свойственно: уют и комфорт. Мультиварка — как раз тот кухонный предмет, который не требует отношения как к самоценному объекту и способен заменить ещё ряд «предметов», так как позволяет и жарить, и тушить, и варить, и запекать. Вся трудоёмкость по приготовлению, скажем, жаркого или супа заключается в закладке подготовленных продуктов в чашу мультиварки и нажатии соответствующей кнопки, запускающей нужную вам программу. Не надо часами стоять у плиты, снимая пену с бульона или следя за тем, чтобы мясо не подгорело или не забрызгало кухню от пола до потолка.

В мультиварке можно приготовить что угодно — о том, чтобы угодить вам, позаботились издатели книги **«Готовим в мультиварке»**. Не думайте, что мультиварка способна только на стандартный набор блюд. Можете не сомневаться, что вы легко приготовите, например, салаты, ингредиенты которых требуют различной степени тепловой обработки (со спаржей и помидорами, с картофелем и лососем, из сельдерея и зелёного лука). Вас и ваших родных порадуют мясные, куриные, рыбные рулеты, сладкие и закусочные муссы, суфле, самая изысканная выпечка. И конечно, ароматные супы и рассыпчатые каши. «Изюминка» мультиварки — отсроченное приготовление, что позволяет получить горячий обед или ужин сразу по возвращении домой.

...А плита тогда зачем, спросите вы? А плита не нужна на современной кухне! Поставьте на её место, к примеру, детский столик: на вашей кухне уже нет дыма, гари и чада. Или выращивайте тут цветы!

## Да 60-годдзя часопіса «Маладосць»

«ЛіМ» працягвае друкаваць серыю матэрыялаў, прысвечаных юбілею часопіса «Маладосць». Гэтым разам прапануем чытачам урывак размовы Святланы Дзянісавай з ПЯТРОМ ВАСЮЧЭНКАМ, падрыхтаванай для выдання «Скрозь «Маладосць». Не самая сумная кніга пра грошы, шакалад, пісьменнікаў і літаратуру».

# Дыялектыка новага і старога

— Мне падумалася, што поспех першапраходніцтва як рысы маладосці тлумачыцца тым, што маладосць, не маючы пэўнага вопыту, не валодае і стэрэатыпамі, якія з гэтым вопытам звязаны. У маладосці або зусім няма ніякіх схем, або яны яшчэ толькі пачынаюць выпрацоўвацца. Вось яна і апынаецца бліжэйшай да наватару. Не таму, што малады, як прынята лічыць, больш энергічныя ды няўрымслівыя, — такімі творчыя асобы могуць быць і ў восемдзесят. А таму, што, не маючы перад сабою стэрэатыпаў, не маюць патрэбы ў іх разбурэнні — і проста будуюць сваё, новае. Невыпадкова маладымі былі не толькі маладнякоўцы, але і нашаніўцы. Успомніце, колькі гадоў споўнілася Багдановічу, Купалу, Коласу, Палуяну, калі пачыналася «Наша ніва». А яны ж зрабілі свайго роду рэвалюцыю, санкцыянавалі ўсплёск нацыянальнай актыўнасці. А «Тутэйшыя»? Група маладых літаратараў збіралася пад дахам Саюза пісьменнікаў, актыўна эксперыментуючы, ідучы ў «рожкі» са старымі. Памятаю, як спакойна і памяркоўна выслухоўваў іх Анатоль Вярцінскі — ён тады быў рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Сустракаў гэтыя задзірыстыя «наезды» моладзі — і… як паблажліва, мудра адказваў. Калі сёння ацэньваю феномен «Тутэйшых» з пункту гледжання літаратурнай гісторыі, то думаю найперш пра тое, чаго многія з нас тады яшчэ не ведалі. А менавіта: што ў літаратуры ўсё ўжо было. Прычым, і «ў рожкі са старымі» — таксама было.

**— А ўвогуле, ці можна ў дачыненні да ўласна літаратуры сказаць, што ў ёй таксама ўсё было?**

— Можна. Тое, што ствараецца сёння, лёгка знайсці ў літаратуры 1920-х гадоў. Кажучы словамі Эклезіяста, няма пад Сонцам нічога новага, хаця кожнае пакаленне ўносіць у тое, што ўжо ёсць, нешта сваё — і гэта мае права лічыцца новым: такая ўжо доля ў даўно забытага старога. Вось так — дыялектычна — я спрабую адказаць на гэта пытанне. На новым узроўні, на новым вітку мы вяртаемся да старых ісцін, шукання працягу ў рэальным жыцці.



Пімен Панчанка.

*Пімен Емяльянавіч не замінаў празаікам паказваць каханне не толькі ў кажуху і валёнках, пры лёгенькім пацалунку, а каб герой распрануў гераіню…*

**— Да шукання працягу і працягу шукання… Таму што ісціну знайсці наўрад ці зможам, нават нягледзячы на тое, што ў гэтых пошуках стварылі ўжо ўсё, што маглі?**

— Мы рухаемся. Ведаеце формулу? Ёсць ісціна, а ёсць праўда. Колькі людзей, столькі і праўды. Праўда — гэта казаць тое, што думаеш, а ісціна… Да ісціны трэба прыйсці.

Вяртаючыся да нашай гаворкі. Я прыгадаў ужо — і як гісторык літаратуры, і як чалавек, які гэту гісторыю літаратуры выкладае — вопыт «Маладняка». Мне думаецца, што «Маладняк» для «Маладосці» быў самым непасрэдным папярэднікам. Шмат з таго, што сёння ёсць у «Маладосці», мэў менавіта «Маладняк». Напрыклад, вопыт стварэння літаратурнага часопіса на нейкай платформе, у дадзеным выпадку — на падставе ўзросту. Па сутнасці, «Маладняк» быў першым літаратурным згуртаваннем на Беларусі, якое стварылася не таму, што яго ўдзельнікі прапаведавалі нейкую ідэю, — хаця і гэта было таксама, а паводле ўзросту, адчуўшы яго як прывілею — і абвясціўшы: хто не з імі, той — стары. Так у «старыя» трапілі саракагадовыя Янка Купала і Якуб Колас. Гэта ж Адаму Бабарэку належыць сцвярджэнне пра тое, што верш Чабора «На сенажаці», надрукаваны ў «Маладняку», вышэй за «Новую зямлю» Якуба Коласа і «Безназоўнае» Янкі Купалы. Як тут не прыгадаць «Тутэйшых», якія таксама казалі, што літаратура пачынаецца з іх?..



Вера Вярба.

*Выкшталцоная мінчанка Гертруда Маркава звычайна ў гутарцы карысталася толькі рускай мовай, і нават мала хто са студэнтаў ведаў, што яна друкавала беларускія вершы пад псеўданімам Вера Вярба.*

Можна было б паблажліва глядзець на вопыт «Маладняка», але на глебе гэтай задзірыстасці нарадзілася «Узвышша», сябры якога таксама былі не старыя, але ўсё ж зразумелі, што галоўнае ў літаратуры — гэта не маладосць, а якасць. Яны ўжо не апелявалі да гэтай сваёй прывілеі. І вось цяпер яшчэ адзін сінонім слова «маладосць» — «вучнёўства». Менавіта ў маладосці актыўна засвойваюцца літаратурныя веды. У мяне на гэты конт маюцца свае «забабоны», якія я не раз выказваў. Падзялюся імі і тут. Выклікаючы часам раздражненне, я казаў і кажу, што ў маладосці пачынаюцца паэты: яны могуць выспець ужо ў пятнаццаць-шаснаццаць гадоў, таму што у паэзіі найбольшую ролю іграе эмацыйны вопыт, а ў маладосці яго, як правіла, больш, чым у сталасці. Празаік пачынаецца ў трыццаць — таму толькі, што да эмацыйнага вопыту патрэбен вопыт жыццёвы. А драматург, працягваю думку, нараджаецца ў сорак, таму што яму трэба ведаць законы сцэны так, каб не толькі адчуць, але яшчэ і паведаміць. Са мною шмат на гэты конт спрачаюцца, прыводзячы адзін за адным розныя прыклады. Калі я кажу пра тое, што Куляшоў адзін з лепшых сваіх вершаў пра каханне — і лепшых вершаў пра каханне ў беларускай літаратуры ўвогуле, — верш «Бывай» напісаў у чатырнаццаць, са мною згаджаюцца. Але часам кажуць, што Лермантаў напісаў драму «Маскарад» у пятнаццаць. На гэта я таксама адказваю крыху палемічна: «Маскарад», маўляў, — не лепшае з напісанага Лермантавым, на ім ляжыць пячатка вучнёўства, па-першае, а па-другое, гэта не столькі драма, колькі паэзія.

Маладосць — гэта, паўтаруся, вучнёўства, а праз яго — адкрыццё самога сябе ў літаратуры. Тут важная акалічнасць хаваецца ў тым, што вельмі многае ніяк не залежыць ад асобы аўтара. Проста трэба, каб нехта цябе адкрыў. Сінонім «маладосці» — гэта і «дэбют». Я шкадую, што сябе адкрыў не ў «Маладосці».

# Ведаць сваю гісторыю

«Круглы стол», прысвечаны 20-годдзю з дня выхаду першага нумара «Беларускага гістарычнага часопіса», прайшоў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Яго арганізатарамі выступілі НББ і выдавецтва «Пачатковая школа», якое з нядаўняга часу займаецца выданнем «БГЧ».

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

У пачатку 1990-х гадоў стала зразумела, што нацыянальная гісторыя мусіць быць напісана з пазіцый незалежнай дзяржавы. Але неабходных пляцовак для апрабацыі даследаванняў у айчынных навукоўцаў тады не існавала. Таму ў Беларусі адзін за адным пачалі ўзнікаць гістарычныя часопісы. Але з розных прычын, у тым ліку фінансавых, шэраг з іх (напрыклад, «Беларуская мінуўшчына», «Спадчына») спынілі сваё існаванне. Нязменна працягвае выходзіць толькі «Беларускі гістарычны часопіс», заснаваны ў сакавіку 1993 года.

Як падкрэсліў ва ўступным слове галоўны рэдактар выдання Максім Гальпяровіч, за 20 гадоў змяніўся фармат і аб'ём часопіса, яго змест і перыядычнасць, а таксама рэдакцыйны склад. Сёння гэта адзіны ў краіне штомесячны навуковы, навукова-метадычны ілюстраваны часопіс па гістарычных навуках і методыцы выкладання гісторыі. Ужо выйшла 164 нумары агульным тыражом больш як 400 тысяч экзэмпляраў. У «БГЧ» было надрукавана каля 2 тысяч артыкулаў, аўтарамі якіх з'яўляліся даследчыкі больш як з 20 краін свету, у тым ліку Германіі, ЗША, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Сірыі, Украіны, Францыі і інш.

Галоўны рэдактар звярнуў увагу і на асобныя праблемы «Беларускага гістарычнага часопіса». Гэта зніжэнне колькасці падпісчыкаў і, адпаведна, змяншэнне тыражу, а таксама неабходнасць павышэння якасці публікацый. М. Гальпяровіч адзначыў, што рэдакцыйны партфель напоўнены артыкуламі. Але часам складваецца ўражанне, што асобным даследчыкам больш цікавыя спраздачныя матэрыялы, чым арыгінальныя даследаванні.

З юбілеем «БГЧ» павіншавалі афіцыйныя асобы: намеснік міністра адукацыі Беларусі Віктар Якжык і намеснік міністра інфармацыі краіны Уладзімір Матусевіч. В. Якжык прапанаваў больш актыўна выходзіць у медыяпрастору, гэтую ідэю падтрымаў яго калега. Уладзімір Матусевіч выказаў упэўненасць, што ў «БГЧ» павінен быць паўнавартасны сайт. Ён не мусіць дубліраваць папяровую версію. Але там можна праводзіць пэўныя дыскусіі, каб зацікавіць моладзь. Варта праводзіць таксама «круглыя сталы» з удзелам навукоўцаў і размяшчаць іх у інтэрнэце, упэўнены акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя.

На думку Алеся Сушы, намесніка дырэктара НББ па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці, прадстаўнікі гістарычных навук павінны ганарыцца, што маюць такое выданне. Напрыклад, у філасофаў аналагічны часопіс адсутнічае. Паводле інфармацыі А. Сушы, «БГЧ» карыстаецца вялікім попытам у чытачоў Нацыянальнай бібліятэкі. Разам з тым, у НББ можна пазнаёміцца з выданнямі Оксфарда і Кембрыджа. А вось айчынныя належным чынам пакуль не прадстаўлены за мяжой. Магчыма, ужо надышоў час выходзіць на сусветную арэну?

Дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Вячаслаў Даніловіч звярнуў увагу як на станоўчыя, так і на спрэчныя бакі ў цяперашнім становішчы «БГЧ». Да першых былі аднесены ілюстрацыі высокага ўзроўню, чым можа пахваліцца не кожнае навуковае выданне, а таксама даступнасць для чытачоў. Як мяркуе даследчык, у сённяшніх умовах тыраж у тысячу асобнікаў для акадэмічнага часопіса з'яўляецца прыстойным. Адначасова В. Даніловіч адзначыў невялікую колькасць рэцэнзій на навуковыя працы калег і адсутнасць на старонках канструктыўнай крытыкі. Таксама ён прааналізаваў спіс матэрыялаў, надрукаваных у «Беларускім гістарычным часопісе» за мінулы год. Больш як палову з іх складаюць метадычныя публікацыі. Таму існуе небяспека пераўтварэння выдання ў выключна метадычны часопіс.

Прыведзеныя разважанні былі паглыбленыя ў далейшай дыскусіі, у якой узялі ўдзел акадэмік НАН Беларусі Міхаіл Касцюк, першы рэдактар «БГЧ» Васіль Кушнер, старшыня рэдакцыйнай рады выдання Юрый Бохан, дырэктар НББ Раман Матульскі, прафесары Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Віктар Фядосік і Алег Яноўскі, загадчыкі аддзелаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксандр Груша і Аляксей Літвін, прафесар Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Рыгор Лазько, даследчыкі з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка Аляксандр Рацько і Аляксандр Корзюк, а таксама колішні супрацоўнік «БГЧ» Сымон Барыс.

Здольнасць крытычна ацэньваць уласную працу, бачыць у ёй не толькі перамогі, але і пралікі заўжды з'яўлялася перадумовай будучых поспехаў. Дзелавы, добразычлівы, але адначасова крытычна-канструктыўны тон дыскусіі надзвычай парадаваў. Гэта сведчанне таго, што «Беларускі гістарычны часопіс» мае патэнцыял для далейшага развіцця.



Фота з сайта www.gorad.by

Сцэна са спектакля «Пахаванне Кармэн».



Фота з сайта www.kimpress.by

Сцэна са спектакля «Над прорваю ў жыце».

# Магілёў укантакце.by

**Восьмы раз у горадзе прайшоў Міжнародны маладзёжны тэатральны форум «M@rt.кантакт», арганізатарамі якога традыцыйна выступілі Магілёўскі абласны выканаўчы камітэт, упраўленне культуры аблвыканкама, а таксама Магілёўскі абласны драматычны тэатр.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

## ФАРМАТ І ПРАВІЛЫ ГУЛЬНІ

Для гледачоў форум пачынаў сваю працу вечарам кожнага дня, калі на дзвюх з трох пляцовак (драматычны тэатр, тэатр лялек і канцэртная зала «Магілёў») паказваліся дзве ці тры пастаноўкі (сёлета гледачы ўбачылі калектывы з Беларусі, Арменіі, Літвы, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Расіі і Украіны). Прычым, паказы ішлі не паралельна, а паслядоўна, таму можна было пабачыць усе імпрэзы. Раніцай наступнага дня ў тэатральнай кавярні група крытыкаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і Польшчы у прысутнасці акцёраў і журналістаў «разбірала» спектакль. Пры жаданні да дыскусій далучалася міжнароднае журы на чале з Валерыем Анісенкам, дырэктарам-мастацкім кіраўніком Нацыянальнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа. У другой палове дня ў Гарадскім цэнтры культуры і адпачынку праводзіліся чыткі, у якіх былі занятыя акцёры Магілёўскага драматычнага тэатра. Сёлета такім чынам былі прэзентаваны п'есы «Ціхі шорах адыходзячых крокаў» Дзмітрыя Багаслаўскага, «Двое бедных румынаў, якія размаўляюць па-польску» Дароты Маслоўскай і «Вій» Наталлі Варажбіт. Таксама прайшоў «круглы стол» «Сучасная драматургія: погляд маладога рэжысёра». Нарэшце, бліжэй да вечара пачыналіся новыя паказы. 14 спектакляў за 7 дзён… Паспрабуем разабрацца ва ўражаннях.

## ЛЕПШАЕ

Гран-пры справядліва атрымаў **«Гамлет»** Магілёўскага тэатра лялек. Рэжысёр Ігар Казакоў ажыццявіў амаль немагчымае: удосталь паіранізаваў з класікі і яе ўспрымання гледачом (напрыклад, Гамлет апранаецца ў касцюм героя коміксаў пра амерыканскага супермена), вытрымаў заяўлены жанр «трагіфаршу» і адначасова захаваў глыбіню шэкспіраўскага тэксту. На думку крытыкаў, І. Казакоў паставіў спектакль-маніфест, у якім увасобіў ідэі свайго пакалення і вывеў на сцэну героя новага тыпу — інфантыла.

Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы імя Ленінскага камсамола Беларусі прывёз у Магілёў спектакль **«Над прорваю ў жыце»**. Рэжысёр Цімафей Ільеўскі вызначыў жанр пастаноўкі як «гісторыя сталення ў стылі рок-н-рол» і вытрымаў аўтарскую стылістыку на працягу ўсяго дзеяння. Спектаклю былі ўласцівы і дзве ключавыя характарыстыкі рок-н-рола: дакладны рытм і раскаванасць дзеяння. Высокаму ўзроўню паспрыялі таксама цудоўная рэжысёрская інсцэніроўка рамана Сэлінджэра, поўная адсутнасць маралізатарства, выдатная ігра Анатоля Бараннікава (выканаўцы галоўнай ролі Холдэна), адзначанага дыпломам «Лепшы малады акцёр», а таксама арыгінальная сцэнаграфія Васіля Бурдзіна, якая ўяўляла канструкцыі з кардонных скрыняў.

**«Палёт над горадам»** Армянскага дзяржаўнага тэатра лялек імя Аванеса Туманяна прынёс Нарынэ Грыгаран (рэжысёру і выканаўцы галоўнай ролі) дыплом «За арыгінальнасць сцэнічнай мовы». Спектакль атрымаўся дастаткова кантрасным. Першая частка ўвасабляла паэтычны свет сляпой дзяўчыны, якая чакае аперацыі. Тут Н. Грыгаран выступіла наватарам і перадала ўспрыманне гераіняй як навакольнага свету, так і доктара, у якога закаханая, праз уласную сцэнічную мову і арыгінальную тэхніку (яна ў прамым сэнсе ўзлятала над сцэнай). А вось у другой частцы адбылося сутыкненне мар гераіні з побытам і рэальнасцю. Паэтычны свет аказаўся разбураным…

Пастаноўка **«Пахаванне Кармэн»** польскага тэатра «Бюро падарожжаў» зрабілася першай спробай паказу на форуме вулічнага тэатра: спектакль быў прэзентаваны ля магілёўскай ратушы. Створаны ў 1990-я гады падчас вайны на тэрыторыі былой Югаславіі, ён адлюстроўвае ўсе ўзброеныя канфлікты сучаснасці і іх наступствы. Парадокс, але надзвычай халоднае надвор'е і пранізлівы вецер толькі ўзмацнілі эфект. Складвалася ўражанне, што з'яўляешся сведкам сусветнага апакаліпсісу, дзе амаль аголеныя каты на хадулях б'юць сваіх ахвяр бізунамі, цывільныя асобы вымушаныя стаць салдатамі, а бежанцы ратуюцца ад баявых дзеянняў, а потым вяртаюцца да свайго разбуранага жытла… Мяркую, што эфектны, унутрана цэласны польскі спектакль паспрыяе таму, што ў далейшым на «M@rt.кантакт» будуць запрашацца іншыя вулічныя калектывы.

Пастаноўку **«Шоўк»**, якую ажыццявіў Аляксей Ляляўскі ў Беларускім тэатры лялек, давялося ўбачыць другі раз. У нечым на ўспрыманне паўплывала малая пляцоўка: у Мінску спектакль глядзеўся больш эфектна. Але пэўныя дробязі не адбіліся на агульнай высокай ацэнцы. Элементы спектакля знаходзяцца паміж сабой у поўнай гармоніі. А. Ляляўскі здолеў перадаць вытанчанасць, стыль і ўнутраны тэмпарытм культавага рамана Алесандра Барыка. Арыгінальнай падалася рэжысёрская інтэпрэтацыя твора. «Шоўк» атрымаўся не пра Японію і Францыю і не пра падарожжы паміж гэтымі краінамі. А пра пачуцці галоўнага героя да сваёй жонкі, пра каханне, якое Эрве Жанкур шукаў па ўсім свеце, але знайшоў надзвычай позна. Наогул, пасля прагляду «Шоўку» можна казаць не пра здабыткі лялечнага ці драматычнага жанру, а пра іх сінтэз.

## «ЗАЛАТАЯ СЯРЭДЗІНА»

Моцнае ўздзеянне на гледачоў аказалі спектаклі «залатой сярэдзіны». Магчыма, яны не сталі прарывам, але пакінулі пасля сябе яркае ўражанне.

На адкрыцці форуму санкт-пецярбургскі Дзяржаўны драматычны тэатр «На Ліцейным» паказаў **«Рамэа і Джульету»**. Галоўнай вартасцю спектакля, вырашанага праз гламурны ружовы колер, стала яго сугучча з атмасферай і тэмпам сучаснага жыцця. Прычым, героі паўстаюць няўпэўненымі ў сабе, інфантыльнымі падлеткамі. Арыгінальная задума рэжысёра Галіны Жданавай прынесла ёй дыплом «Лепшая рэжысёрская работа». Але вытрымаць выбраны жанр трагіфарсу і заяўлены тэмпарытм атрымалася не цалкам.

Другім прадстаўніком Паўночнай Пальміры ў Магілёве зрабіўся Тэатр «Прытулак Камедыянта», які прэзентаваў **«Варшаўскую мелодыю»**. Як вядома, дзеянне п'есы Л. Зорына адбываецца ў трох часавых пластах (1947-ы, 1957-ы, 1967-ы). Найбольш натуральна дуэт галоўных герояў выглядаў у першых сцэнах, дзе фактычна ігралі самі сябе. А вось далей іх шляхі разышліся не толькі ў прамым, але і ў пераносным сэнсе. Кацярына Зорына, выканаўца ролі Гелены, змагла перадаць эвалюцыю сваёй гераіні. Гэта заслужана прынесла ёй дыплом «Лепшая маладая актрыса форуму». А вось Павел Ганчароў, які ўвасобіў Віктара, на жаль, застаўся ў 1947-м, што паўплывала на цэласнасць ва ўспрыманні спектакля.

Малдаўскі Дзяржаўны маладзёжны драматычны тэтр «З вуліцы Руж» прадставіў гледачам культавы твор — **«Эквус»** Пітэра Шэфера, сюжэт якога заснаваны на гісторыі юнака Алана Стрэнга, які асляпіў шасцярых коней («Эквус» быў прызнаны лепшай п'есай свету 1970-х гадоў). На жаль, рэжысёр Юрый Хармелін істотна адаптаваў твор для сцэнічнага прачытання. Напрыклад, скарочана лінія псіхіятра Мартына Дайзерта, што не толькі імкнуўся разабрацца ў жыцці героя, але адначасова лячыў самога сябе. У выніку замест філасофскага спектакля, прысвечанага праблемам моладзі і ўзаемаадносінам паміж індывідуумам і грамадствам, атрымалася крыху побытавая, асабістая гісторыя, якая не мела шырокіх абагульненняў. Зрэшты, знешне «Эквус» выглядаў дастаткова эфектна, а дуэт галоўных герояў пакінуў прыемнае ўражанне.

Гаспадар форуму, Магілёўскі абласны драматычны тэатр, паказаў сваю апошнюю прэм'еру — спектакль **«Блазан Балакіраў»** Рыгора Горына. Праца рэжысёра Валянціны Ераньковай не стала яе безумоўным творчым поспехам. Але парадаваў шэраг годных акцёрскіх работ, напрыклад, Кацярына Ергулевіч (за ролю Кацярыны І была адзначана спецыяльным дыпломам журы «За лепшы дэбют»). Будзем спадзявацца, на наступным «M@rt.кантакце» праца магіляўчан стане адкрыццём форуму. Тым больш, трупа надзвычай годна праявіла сябе падчас чытак.

## ТЭАТРАЛЬНЫЯ ПЫТАННІ БЕЗ АДКАЗАЎ

На кожным фестывалі існуюць спектаклі, якія ў параўнанні з іншымі пакінулі больш спакойнае ўражанне. На сёлетнім «M@rt.кантакце» да такой катэгорыі можна аднесці некалькі пастановак. **«9 месяцаў / 40 тыдняў»** маскоўскага Тэатра.doc і **«Гранёнка»** (Рыжскі рускі тэатр імя Міхаіла Чэхава) мелі забаўляльны характар і не прэтэндавалі на глыбіню. **«Жанчыны Гоі»** санкт-пецярбургскага Тэатра пантамімы і пластыкі «Атэлье» і **«Нос»** вільнюскага Маладзёжнага тэатра «Арлекін» радавалі хутчэй знешняй эфектнасцю. А вось **«Наш гарадок»** Чарнігаўскага абласнога акадэмічнага музычна-драматычнага тэатра імя Т. Шаўчэнкі (адзначаны спецыяльным дыпломам журы «За захаванне традыцый рэпертуарнага тэатра») апынуўся не лепшым спектаклем гэтага калектыву. Раней ён прыязджаў у Беларусь і, як сведчаць відавочцы, выглядаў больш годна.

***

Дырэкцыя «M@rt.кантакта», якую традыцыйна ўзначальвае кіраўнік Магілёўскага абласнога тэатра Андрэй Новікаў, зрабіла немагчымае. Які год падчас правядзення форуму цэнтрам Беларусі з'яўляецца Магілёў. Больш за тое, калі паспрабаваць скласці іерархію айчынных тэатральных фестываляў, дык, на маю думку, «M@rt.кантакт» упэўнена змагаецца з «ТэАРТам» і «Белай вежай» за першае месца».

# Прынашэнне Фёдару Шаляпіну

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

У красавіку споўнілася 75 гадоў з дня смерці самага знакамітага баса ў гісторыі опернага мастацтва — Фёдара Шаляпіна. Яго імя ведаюць нават тыя, хто ніколі не цікавіўся опернай музыкай, яго асоба і праз столькі гадоў застаецца цікавай, а творчая спадчына — узорам выканальніцкага мастацтва. Прысвячэннем, данінай памяці гэтаму легендарнаму спеваку стане канцэртная праграма, якая рыхтуецца ў межах культурна-асветніцкага праекта «Музычныя вечары ў Вялікім» і будзе прадстаўлена 26 красавіка ў Камернай зале імя Александроўскай Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.



Сваёй сусветнай папулярнасцю Шаляпін абавязаны не толькі надзвычай прыгожаму голасу — басу дзіўнага тэмбру і ўнікальнай палётнасці, — але і артыстычнаму таленту: арганічнасці на сцэне, майстэрству пераўвасаблення, харызматычнасці і тэмпераменту. У сваіх лепшых ролях — Барыса Гадунова, Мефістофеля, Дэмана — ён выклікаў незабыўнае ўражанне, знаходзячы вельмі дакладныя і шчырыя інтанацыі для кожнага вобраза. Засталіся шматлікія запісы спевака (дарэчы, Фёдар Іванавіч быў адным з першых у Савецкай Расіі артыстаў, хто пачаў запісваць пласцінкі).

У праграме канцэрта «Прынашэнне Фёдару Шаляпіну» ў выкананні вядучых салістаў Вялікага тэатра Беларусі народнага артыста Уладзіміра Пятрова, заслужанага артыста Алега Мельнікава, лаўрэатаў і дыпламантаў міжнародных конкурсаў Ганны Гур'евай, Аксаны Якушэвіч, Аляксея Мікуцеля і Дзмітрыя Трафімука прагучаць арыі і рамансы рускіх і замежных кампазітараў з рэпертуару легендарнага спевака. Партыя фартэпіяна — заслужаны артыст Беларусі Георгій Карант.

Галоўнай падзеяй і своеасаблівай «разынкай» музычнай праграмы стане ўдзел у ёй выдатнага сербскага баса Браніслава Яціча, прэм'ера Нацыянальнай оперы Сербіі, на сцэне якой ён выканаў больш як 70 партый. Артыст зрабіў выдатную міжнародную кар'еру, выступаў у оперных тэатрах Славакіі, Расіі, Грэцыі, Венгрыі, Галандыі, гастраліраваў у Ганконгу, Італіі, Чэхіі, Харватыі, Германіі, Швейцарыі, Бельгіі і Францыі. Браніслаў Яціч з'яўляецца членам журы міжнародных конкурсаў оперных спевакоў, займаецца пісьменніцкай і перакладчыцкай дзейнасцю.

Цікава, што захапленне сербскага артыста творчасцю калегі перарасло ў шэраг мастацкіх і навуковых праектаў. Браніслаў Яціч — стваральнік і саліст праекта «Славянскія басы», прысвечанага Шаляпіну, старшыня Сербскага Шаляпінскага грамадства і аўтар кнігі «Шаляпін супраць Эйфелевай вежы», якую, дарэчы, ён прэзентуе падчас музычнага вечара.

# Зямля пад белымі крыламі



**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Слова краязнаўцы



**Вольга ЗАЛУЦКАЯ, загадчык Музея беларускага народнага мастацтва ў вёсцы Раўбічы Мінскага раёна, філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, распавядае, якім чынам аўтэнтычныя рэчы часам трапляюць у музейныя фонды:**

— Улічваючы спецыфіку музея, мы стараемся, каб у пастаяннай экспазіцыі і на выстаўках, якія мы ладзім, былі прадстаўлены розныя віды традыцыйнага народнага мастацтва. Зразумела, імкнёмся папаўняць свае калекцыі. Удзельнічаем у экспедыцыях, якія плануе Нацыянальны мастацкі музей. Калі канцэпцыя фарміравання фондаў прадугледжвае, што нейкага прадмета нам не хапае, выпраўляемся па навукова абгрунтаваных маршрутах на пошукі экспанатаў.

Шмат працуем з калекцыянерамі. Дарэчы, у Беларусі ёсць нямала людзей, якія даўно і мэтанакіравана збіраюць прадметы традыцыйнага народнага мастацтва. Напрыклад, ручнікі, аўтэнтычныя касцюмы, кераміку. Калі мы бачым, што ў іх ёсць вельмі цікавыя прадметы музейнай значнасці, то прапануем аматарам даўніны перадаць ці прадаць іх у музей. Многія калекцыянеры проста дораць нам унікальныя рэчы. І паверце, знайсці ў прыватных зборах рарытэты цалкам магчыма, таму што людзі калекцыяніруюць не толькі іконы, жывапіс ці каштоўнасці, але і вырабы народных майстроў.

Хацелася б распавесці пра адзін выпадак. Чалавек купіў у Стаўбцоўскім раёне дом. Калі пачаў яго разбіраць, на гарышчы знайшоў некалькі збаноў, іншыя вырабы з гліны, вязаны кручком абрус. Выкінуць старыя рэчы рука не паднялася. І вось нядаўна ён завітаў да нас і запытаў, ці патрэбны нам такія прадметы. Калі пагледзелі іх, то высветлілі, што ў калекцыі, якую ён захоўвае, не разумеючы яе сапраўднай каштоўнасці, маецца ўзор абварнай керамікі — гладыш, выраблены па старадаўняй, не па нанава створанай, тэхналогіі ў 30-я гады мінулага стагоддзя. Знайсці ў XXI стагоддзі аўтэнтычную рэч, якая добра захавалася, — вялікая ўдача. Гаспадар падарыў музею ўсе гэтыя рарытэты.

Адзін жа калекцыянер перадаў нам адмысловыя ручнікі, выробленыя восемдзесят гадоў таму. Хтосьці просіць за падобныя рэчы хоць невялічкія грошы. І іх можна зразумець, бо яны не выкінулі на сметнік узоры народнага мастацтва, не аддалі іх у прыватныя калекцыі. А для музея гэта каштоўныя знаходкі. Нашы экспедыцыі, зразумела, прыносяць вынік. Але з кожным годам усё менш і менш аўтэнтычных прадметаў мы можам знайсці падчас падарожжаў.

## Музейны ўнікат

# Ручнік-абярэг

Прадметы так званай цвёрдай і мяккай этнаграфіі з уласных фондаў Чавускага раённага гісторыка-краязнаўчага музея, якія збіраліся са дня стварэння ўстановы ў 1990 годзе, можна ўбачыць на выстаўцы «Этнаграфічная спадчына Чавускай зямлі».

**Наталля ВЫЧАНКОВА, фота аўтара**

У экспазіцыі прадстаўлены хатнія рэчы: гарлачы, самавары, маслабойкі, кадкі, дзежкі. А таксама прадметы для апрацоўкі льну: ільнамялка, церабіла, грэбні, калаўрот, чоўны для кроснаў, верацёны і інш. Тут можна бліжэй пазнаёміцца з вырабамі мяккай этнаграфіі чавускай зямлі. Гэта саматканыя пакрывалы, абрусы, паясы, ручнікі, элементы жаночага і мужчынскага касцюма.

Найбольш шырока на выстаўцы прадстаўлены ручнікі. Як правіла, яны маюць белае поле, на якім — пераважна па канцах — размешчаны тканы ці вышываны геаметрычны або раслінны ўзор чырвонага колеру з дабаўленнем чорнага. Аснову ўзору складаюць ромбы і разеткі, якія ў розных мадыфікацыях, чаргуючыся з іншымі нескладанымі фігурамі, ствараюць незлічоныя варыянты кампазіцыі. У Чавускім раёне пераважае спосаб вышыўкі крыжам і падліковай гладдзю, вязалі з дапамогай кручка або пруткоў.

У залежнасці ад свайго галоўнага прызначэння ручнікі можна ўмоўна падзяліць на наступныя групы: побытавыя, дэкаратыўныя, сітуацыйнай абраднасці і перыяду 50 — 60-х гадоў мінулага стагоддзя.



Ручнік-абярэг.

Асаблівае месца займае ручнік, які адразу вылучаецца сярод іншых: на вырабе арнамент аднаго канца адрозніваецца ад другога. Паступіў ён у фонды музея ў 1991 годзе ад Ірыны Агеенкі, якая распавяла, што гэты ручнік вырабіла яе маці — Акуліна Навасельцава, якая жыла ў вёсцы Папоўцы Чавускага раёна. Акуліна Фамінічна ткала і вышывала яго як абярэг у чаканні дзіцяці і для абароны сваёй маладой сям'і. Розныя канцы сімвалізуюць жаночы і мужчынскі пачатак і ўвасабляюць сям'ю як адно цэлае. Адзін канец вышыты падліковай гладдзю, другі — крыжыкам.



Вясельны ручнік.

Каляровае рашэнне — традыцыйнае для тутэйшых ручнікоў: пераважае чырвоны колер з невялікім дабаўленнем чорнага.

Вялікую цікавасць выклікае ручнік, вытканы ў 30-я гады мінулага стагоддзя як абярэг дзецям. Гэта выраб Лізаветы Андрэенкі з Чавусаў. Вядома, што ў Лізаветы Мікалаеўны была вялікая сям'я, але з васьмі дзяцей выжылі толькі чацвёра. На ручніку-абярэгу можна ўбачыць чатыры разеткі, што сімвалізуюць яе дзяцей. Дарэчы, знак дзяцей у ткацтве мае выгляд васьміканцовай разеткі, якая, верагодна, з'яўляецца вынікам трансфармацыі старажытнага матыву з чатырох каласкоў, што адыходзяць ад ромба. У цэнтры змешчаны крыжык — абярэг ад няшчасця, пажаданне дабра і здароўя.

Рыхтуючы выстаўку, супрацоўнікі музея імкнуліся распавесці асаблівасці побыту нашых продкаў, пазнаёміць з працэсам апрацоўкі льну, прадзення нітак, ткацтвам і вышыўкай.

# Самы віртуальны Багдановіч

«Маленькі Парыж», «каралеўскі горад» — як толькі не называюць чароўную Гародню! Багатая гісторыя, замкі і храмы нязменна прыцягваюць турыстаў — улетку горад становіцца асабліва інтэрнацыянальным. А пазнаёміцца з ім дапамагаюць шматлікія міжнародныя праекты, у тым ліку і ў галіне культуры (згадаць хаця б Фестываль нацыянальных культур, пленэры рэзчыкаў па дрэве ў Каробчыцах ці абменныя гастролі з польскімі калектывамі). Падключаюцца і музеі. Сёння — пра праект Гродзенскага музея Максіма Багдановіча.

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

— Я даўно зразумела, што надышоў час разбураць стэрэатыпы, — распавядае дырэктар музея Святлана Рапецкая, — пазбаўляцца ярлыкоў кшталту таго, што музей — гэта статычная ўстанова, дзе проста захоўваюцца экспанаты, нейкія рэчы, куды прыйдзеш, паслухаеш, атрымаеш нейкую інфармацыю і пойдзеш.

І вось больш як два гады таму пачалі распрацоўваць праект. Ідэя Святланы заключалася ў тым, каб зрабіць віртуальны музей, які дазволіць наведаць Гродна жыхарам іншых краін. А беларусам — завітаць у замежныя. Праект ствараўся, распрацоўваўся, хаця на той час канкрэтнай замежнай пляцоўкі для яго рэалізацыі фактычна не было. Партнёры знайшліся пазней, падчас форуму ў латвійскім Даўгаўпілсе, які і стаміў на мэце «пазнаёміць» розныя ўстановы і арганізацыі, знайсці шляхі супрацоўніцтва. Зразумела, на той форум Святлана паехала з распрацаванай ідэяй, якою адразу зацікавілася некалькі музеяў. Так знайшліся партнёры, і са снежня мінулага года ідзе праца над праектам «Віртуальнае мінулае — гарант поспеху будучыні музеяў», які мае быць завершаным цягам двух гадоў.

Галоўны заявіцель, партнёр — Рэзэкненская вышэйшая школа (Латвія). А ўдзельнічаюць у праекце з латвійскага боку — Латгальскі культурна-гістарычны музей (носіць этнаграфічны характар), з літоўскага боку — Кедайняйскі краязнаўчы музей і з беларускага — Гродзенскі музей Максіма Багдановіча, які мае літаратурны кірунак. Праект распрацоўваецца ў межах праграмы памежнага супрацоўніцтва і добрасуседства, разлічанай на 2007 — 2013 гады, і фінансуецца Еўрасаюзам. Агульная сума — амаль 375 тысяч еўра (на чатырох партнёраў), грант гродзенскага музея — крыху больш як 90 тысяч еўра, з якіх 10 працэнтаў — асабістыя сродкі, што будуць выдаткаваны з гарадскога бюджэту. Дарэчы, у межах праекта ў музеі Максіма Багдановіча плануецца прывесці ў належны выгляд экспазіцыю «Гродзеншчына літаратурная», дзе распавядаецца пра творцаў, чый лёс быў звязаны з гэтым краем.

Праект прадугледжвае даследаванне па кожным музеі, у выніку чаго павінен атрымацца шматслойны праграмны прадукт — віртуальны музей. Па завяршэнні ў кожнага з удзельнікаў будзе спасылка на агульны сайт, дзе людзі змогуць знайсці гэтую інфармацыю. Канечне, выкладваць усю інфармацыю не плануецца: навошта тады ісці ў музей? Таму ў сеціве будзе ў пэўным сэнсе рэклама. У саміх музеях з'явяцца інфакіёскі — кожны наведвальнік зможа паглядзець, што цікавага ў іншых. Для зручнасці карыстальнікаў уся інфармацыя будзе прадстаўлена на некалькіх мовах: нацыянальныя мовы кожнай краіны плюс руская і англійская. Каб патэнцыяльныя наведвальнікі не «забыліся» пра музеі, прадугледжана рэкламная прадукцыя, кружэлкі і г. д. У ідэале, пазнаёміўшыся, напрыклад, з багдановічаўскім музеем у Гародні, тыя ж латышы ці літоўцы, плануючы свой адпачынак, падумаюць: а чаму б не з'ездзіць у Беларусь…

Адно з ключавых слоў у характарыстыцы праекта і яго выніку — шматслойны. Што гэта значыць, тлумачыць С. Рапецкая:

— Падрыхтаваную для карыстальнікаў інфармацыю можна падзяліць на некалькі «слаёў». Першы слой — агульная інфармацыя пра музеі, крышачку пра краіну, рэгіён, горад, дзе яны знаходзяцца. Наступны — пра музей і калекцыі. Трэці слой прадугледжвае магчымасць даведацца пра самыя рарытэтныя, каштоўныя экспанаты: фота, апісанне кожнага прадмета — з адметнай гісторыяй, а не сухія факты. Гэта павінна быць цікава з даследчага боку (у тым ліку і для навукоўцаў) і ў той жа час напісана моваю, зразумелай для звычайных наведвальнікаў. І апошні слой — гульня па кожным з музеяў, якая будзе насіць адукацыйна-пазнавальны характар.

Выгляд і фармат гульні канчаткова пакуль не вызначаны. Магчыма, у ёй будуць прадстаўлены мемарыяльныя пакоі музея Багдановіча: карыстальнік нешта пра іх даведваецца і паралельна выконвае заданні — напрыклад, знайсці пэўную рэч па апісанні. Яшчэ адзін варыянт звязаны з літаратурнай творчасцю: дапісаць верш М. Багдановіча, падабраць рыфму.

Кажуць, Гародні спрыяе геаграфічнае становішча: побач — мяжа з Польшчай, Літвой, не так далёка — з Латвіяй. Гэта праўда. Але не ўся: нельга выкрэсліваць прыватную ініцыятыву. Наперадзе ў праекта і яго ўдзельнікаў яшчэ шмат працы. Аднак супрацоўнікі музея ўжо сёння ўпэўнены, што ў выніку атрымаецца вельмі цікавы прадукт.

# Да зорак — крок за крокам

З пачатку красавіка ў Ганцавіцкім раённым краязнаўчым музеі працуе новая выстаўка «Шлях да зорак». Экспазіцыя распавядае пра тое, як ішлі касманаўты да запаветнай мэты, як крок за крокам, мэтанакіравана і недаступна, спасцігалі законы неба, а потым і космасу, пра вялікую і светлую мару.

«Большасць прадметаў для афармлення выстаўкі прадаставіла Тамара Дзямідава — ганаровы жыхар горада Байканура, стартавай пляцоўкі для касмічных ракет у Казахстане, — зазначыла дырэктар музея Ала Занька. — Тамара Рыгораўна доўгія гады працавала загадчыцай сталовай ваенгандлю, асабіста была знаёма з Юрыем Гагарыным, Валянцінай Церашковай, Уладзімірам Цітовым… Сярод мноства экспанатаў — унікальная кніга Міхаіла Раброва «Касманаўты» з аўтографамі вядомых астранаўтаў».

Яшчэ адзін выхадзец з Ганцавіч — Сяргей Пракаповіч — жыве ў Зорным гарадку і працуе ў Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў імя Ю. Гагарына. Яго сябар Валерый Муха прадаставіў для гэтай выстаўкі падораныя яму календары Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў.

Дапоўніў экспазіцыю расповед Тамары Рыгораўны. Падчас сустрэчы ў Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі, якая прайшла ў краязнаўчым музеі, жанчына падзялілася з навучэнцамі тутэйшых школ сваімі ўспамінамі пра жыццё на Байкануры.

**Раіса МАРЧУК**

# «Перасягаў Віцебск і быў раўнавялікім Менску»

Кожнаму, хто ведае, любіць і паважае гісторыю Беларусі, назва Друцк здольная нагадаць многае. Узнік горад у вярхоўях паўнаводнай ракі Друць, на адным з найважнейшых адгалінаванняў вялікага шляху «з варагаў у грэкі». Былі часы, калі князі друцкія і мінскія змагаліся за правы на полацкі трон. Бачыў Друцк пад сваімі сценамі не толькі іх дружыны, але і ваяроў Уладзіміра Манамаха і нават героя «Слова аб палку Ігаравым» Ігара Святаслававіча.



*Такім «убачылі» Друцк сучасныя мастакі. Фрагмент экспазіцыі талачынскага музея.*

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

Непрыступнай крэпасцю стаяў Друцк у XI — XII стст., а потым некуды знік, нібы праваліўся, і пра яго… забыліся. Хаця гісторыя гэтага паселішча цесна звязана з гісторыяй старадаўніх беларускіх гарадоў, найперш Полацка, Менска і Віцебска. Агульнасць лёсу прасочваецца і ў паходжанні іх назваў — свае найменні яны атрымалі ад рэк, на якіх былі заснаваны. Рака прадвызначыла гістарычны лёс Друцка яшчэ ў той час, калі ён быў адным з племянных цэнтраў усходніх славян.

— Гісторыя Друцка пачалася за некалькі стагоддзяў да таго, як друцкі князь Васіль Міхайлавіч і яго жонка Васіліса пазначылі на пергаменце першую, але вельмі значную падзею на гэтай зямлі — будаўніцтва ў 1001 годзе царквы Прасвятой Багародзіцы — адной з першых на Полацкай зямлі, — распавяла дырэктар Талачынскага гісторыка-краязнаўчага музея Ірына Пікулік. — Запіс у Друцкім Евангеллі пачынаецца словамі: «В лето 6509 (1001 год па новым стылі) церкви сия святая Богородица въ граде во Дрютьсcие». Археолагі лічаць, што горад заснаваны ў IV — V стагоддзях, пра што сведчыць знойдзеная падчас раскопак на друцкім дзядзінцы арбалетная фібула.

У Лаўрэнцьеўскім спісе, у «Павучанні» Уладзіміра Манамаха (1078), запісана, што ён праехаў, «воюя», праз Друцк у Чарнігаў. Манамах неаднаразова ўчыняў карныя паходы на Полацкае княства, на князя Усяслава Чарадзея. «У тым паходзе ўслед за Усяславам спаліў я зямлю (Полацкую — **Р. М.**), спустошыў яе ад Лукомля і Лагожска ды супраць Друцка ваюючы, вярнуўся ў Чарнігаў». Значыць, у 1078 г. быў разрабаваны і спалены Друцк, які неаднаразова згадваецца ў розных летапісах, прынамсі, у Іпацьеўскім ажно 9 разоў. Для параўнання: Полацк — 10, Мінск — 8, Віцебск — 6, што ўскосна падкрэслівае яго ролю і значнасць у сістэме гарадоў і княстваў Полацкай зямлі. У XI — XII стст. старажытны Друцк «перасягаў Віцебск і быў раўнавялікім Менску», лічыць гісторык Леанід Аляксееў. Тут праходзіла заходняе адгалінаванне вялікага шляху «з варагаў у грэкі» — сухапутны волак з басейна Заходняй Дзвіны ў басейн Дняпра. Жыць на ім было выгадна.

Сярэдневяковая гісторыя Друцка цесна звязана з Полацкам. Полацкае княства як тэрытарыяльная адзінка вядома ў летапісах пад назвай «зямля». Усе 14 гарадоў Полацкай зямлі таго часу, уключаючы Друцк, былі «малодшымі» ў адносінах да Полацка і называліся «прыгарады», незалежна ад таго, на якой адлегласці яны знаходзіліся. Прыгарад абавязаны быў падпарадкоўвацца пастановам горада, але меў пэўную самастойнасць. Друцк кантраляваў увесь гандлёвы шлях па Друці. Пасля смерці Полацкага князя Усяслава Чарадзея ў 1101 годзе завяршылася канчатковае афармленне княжацкіх удзелаў з цэнтрамі ў Менску і Друцку, дзе быў пакладзены пачатак роду друцкіх князёў.

— Гісторыкі мяркуюць, што першапачаткова Друцк належаў сыну Усяслава Барысу, а потым удзел, што сфарміраваўся, адышоў сыну Барыса Рагвалоду і яго нашчадкам, — заўважае Ірына Пікулік. — Пра друцкіх князёў неаднаразова згадваецца на старонках летапісаў у 40 — 50-я гады XII стагоддзя. Найважнейшы абавязак князя — арганізацыя войска і камандаванне ім. Апорай княжацкай улады ў Друцку была дружына. Адданыя свайму гаспадару ваяры жылі пры двары на дзядзінцы.

Акрамя княжацкай улады адчувалася і ўлада веча — народнага сходу. У ім бралі ўдзел толькі дарослыя мужчыны. Да нашых дзён дайшлі цікавыя звесткі пра дзейнасць веча ў Друцку і яго ўзаемаадносіны з полацкім вечам. Князя маглі прагнаць з горада за тое, што ён не выконваў ці парушаў дагавор, заключаны з вечам, за няўдалыя ваенныя дзеянні і г. д.

У старажытнарускіх летапісах няма звестак пра Друцк XIII ст. Але выклікае цікавасць паведамленне беларуска-літоўскіх летапісаў. У «Хроніцы Быхаўца» гаворыцца, што пасля разгрому Кіева татарамі кіеўскі князь Дзімітрый «…пачуў, што мужыкі жывуць без гаспадара і завуцца дручане. Ён сабраў людзей і пайшоў да Друцка і пасяліўся ў зямлі Друцкай і зрубіў горад Друцк і назваўся вялікім князем друцкім». У 1240 г. Дзімітрый сапраўды быў у Кіеве, але не князем, а тысяцкім. Ён кіраваў абаронай горада пры нападзенні татараў. З Іпацьеўскага летапісу вядома, што пасля таго, як Кіеў паў, «Воеводу же Дмитра раненого вывели татары и не убили мужества его ради». Мангола-татарскае нашэсце ў XIII ст. абмінула большасць гарадоў на тэрыторыі Беларусі, і яны працягвалі самастойна развівацца.

— Мала мы ведаем і пра Друцк XV стагоддзя, — прадаўжае свой расповед дырэктар талачынскага музея. — У дакументах 1402 года ўпамінаецца князь Андрэй Друцкі, забіты ў бітве на рацэ Ворскла. Ёсць не вельмі дакладныя звесткі пра друцкага князя Івана Бабу і яго брата Пуцяту. Абодва названы друцкімі князямі, якіх у ліку іншых Вітаўт паслаў на барацьбу супраць татарскіх ханаў. У XV стагоддзі друцкія князі падзялілі княства на шэраг дробных удзелаў і сталі звацца Друцкія-Саколінскія, Друцкія-Багрынаўскія, Друцкія-Прыхабскія, Друцкія-Любецкія. У 1508 годзе ўсе яны пакінулі свае ўдзелы і перайшлі пад уладу Масквы, атрымаўшы новыя паветы. З пачатку XVI стагоддзя Друцк вядомы толькі як геаграфічнае паняцце.

Раскопкі на Друцкім замчышчы вяліся яшчэ ў XIX ст. У 1873 г. Друцк уключылі ў спіс археалагічных помнікаў Расійскай імперыі. Да Вялікай Айчыннай вайны беларускі навуковец Аляксандр Каваленя паспеў даследаваць старажытны горад, зрабіў тапаграфічны здымак археалагічнага помніка. На працягу 50 — 60-х гадоў мінулага стагоддзя сем гадоў праводзілі раскопкі супрацоўнікі тагачаснай Акадэміі навук СССР і выявілі вялікую колькасць артэфактаў. Частка экспанатаў трапіла ў Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь, самы цікавы рарытэт з гэтага збору — пярсцёнак князя з пячаткай.

— Паколькі нашага музея тады яшчэ не існавала, артэфакты адправілі ў таксама ў Віцебскі абласны краязнаўчы музей і ў Акадэмію навук СССР, дзе яны дасюль і знаходзяцца, — заўважае Ірына Пікулік. — У нас экспануецца здымак, на якім бачна, што былі раскапаны цэлыя вуліцы. Цяпер яны закансерваваны. Можна іх «раскрыць» і паказаць турыстам.

Потым доўгі час раскопкі не праводзіліся. Толькі падчас падрыхтоўкі да святкавання 1000-годдзя Друцка паступілі сродкі на адкрыццё музея ў Талачыне і на абсталяванне залы старадаўняй гісторыі. Гэтая экспазіцыя створана па матывах раскопак, якія правялі супрацоўнікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў 90-х і ў 2000, 2009, 2010 гадах. Было знойдзена незвычайнае для Беларусі курганнае пахаванне часоў Уладзіміра Манамаха. У цэнтры вялізнага кургана знаходзілася каменная пліта бронзавага колеру, пад якой быў пахаваны падлетак. Па ўсім відаць, паходзіў ён са знатнага роду, бо захаваліся рэшткі яго адзення з залатым шыццём. Вакол падлетка (пол устанавіць не ўдалося) ляжала шмат людзей — мабыць, ваяроў. Усё гэта археолагі яшчэ вывучаюць.

— У 1960-я гады, школьнікам, удзельнічаў у раскопках, шмат чуў пра гісторыю старажытнага горада, — падключаецца да нашай размовы начальнік аддзела культуры Талачынскага райвыканкама Валерый Зайцаў. — Хацелася б, каб Друцк — галоўны брэнд Талачынскага раёна — быў па-сапраўднаму ўвекавечаны. Ужо распрацаваны праект па стварэнні гісторыка-археалагічнага музейнага комплексу «Друцк — горад ранняга сярэднявечча». Для яго ажыццяўлення патрабуюцца значныя сродкі, таму без дапамогі вобласці і рэспублікі нам не абысціся. Гарадзішча старажытнага Друцка — выдатны турыстычны аб'ект.



*Валерый Зайцаў можа гадзінамі распавядаць пра Друцк.*

На добра захаваных частках горада можна размясціць гісторыка-археалагічны комплекс, які будзе садзейнічаць развіццю культурнага і краязнаўчага турызму, папулярызацыі археалагічнай навукі, адраджэнню сярэднявечнага побыту і рамёстваў. Тым больш што гэта адзінае месца ў краіне, дзе амаль поўнасцю захаваліся ўсе элементы горада ранняга сярэднявечча. Маюцца і добрыя транспартныя зносіны: побач — дарогі на Магілёў, Мінск, Маскву.

Чаму б не паказаць зацікаўленым вандроўнікам адкрытыя археалагічныя раскопкі ў акольным горадзе і на дзядзінцы, фрагменты абарончай сцяны, рэканструяваныя вежы — брамную і назіральную, перакідны драўляны мост праз роў? Турысты маглі б завітаць і ў музей старажытных рамёстваў, дзе былі б прадстаўлены ганчарства, кавальства, апрацоўка косці, бронзаліцейны промысел, вернутыя да жыцця на падставе матэрыялаў археалагічных даследаванняў. А княжацкі дом можна ўзвесці на тым месцы, дзе ён і стаяў. Вядома, што ён быў драўляны і двух'ярусны. На самым гарадзішчы захавалася гаспадарчая пабудова XIX ст., у якой плануецца размясціць філіял талачынскага музея. Экспанаты — не праблема, знойдуцца ў выніку далейшых археалагічных даследаванняў, ды і ў музейных запасніках іх хапае.

Турыстам можна паказваць і Талачын, размешчаны на Аршанскім узвышшы. Адсюль выцякае і Друць. У самім Талачыне можна пазнаёміцца са Свята-Пакроўскай царквой. Цікавы факт: доўгі час яна лічылася помнікам XVIII ст. Аднак знойдзеныя дакументы сведчаць: будынак узведзены Львом Сапегам, які валодаў гэтымі землямі, на фундаментах 1604 года. Храм будаваўся як будучая ўсыпальніца для яго роду. Але пасля таго, як Леў Сапега стаў канцлерам Вялікага Княства Літоўскага і пераехаў у Вільню, такую самую царкву ўзвялі і там, у ёй канцлера і пахавалі.

— Добра было б узнавіць з часам інфраструктуру, якая дзейнічала тут калісь, — заўважае Валерый Зайцаў. — І пачынаць патрэбна з поймы Друці, якая злучае Талачын з Друцкам і ўяўляе цяпер рачулку, зарослую хмызняком. Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя на гэтым водным адрэзку стаяла стаяла тры млыны. Будынак аднаго захаваўся і можа быць абсталяваны пад гасцініцу. Каб Друць стала паўнаводнай, неабходна ўзвесці плаціну. Тады роў вакол замчышча запоўніцца вадою, і старадаўняе паселішча «ажыве». Рака ж стане паўнаводнай і прывабіць аматараў адпачынку.

Яшчэ адно ўнікальнае месца можа выклікаць цікавасць у турыстаў — вёска Каменная Крывая, на рэчцы Крывая, непадалёк ад Друцка. Ад былога маёнтка апошняга яе ўладальніка Аляксандра Хамянтоўскага захаваліся дачны дамок, сажалка з «Чайным» астраўком і рэшткі парку, дзе растуць ліпы, лістоўніцы, дубы, сярод апошніх ёсць дрэва, якому больш як 200 гадоў. Адным словам, гэта вельмі прыгожы куток, нягледзячы нават на запусценне.

— Дом для адпачынку хутчэй за ўсё рублены сякерай, бо калі б быў распілаваны пілою, то даўно згніў, — удакладняе Валерый Зайцаў. — Драўніну, апрацаваную сякерай, вільгаць не бярэ. Такі будынак можа прастаяць і 500 год.

Што сёння можна ўбачыць у Друцку? Пакуль не так і шмат. Да 1000-годдзя Друцка на замчышчы быў усталяваны камень з крыжам, часткова рэканструявана ўязная брама, абсталявана месца каля адной з крыніц. Але калі вас цікавіць айчынная гісторыя, то прыедзьце сюды, на месца аднаго з першых гарадоў на беларускай зямлі, каб адчуць аўру старажытнага паселішча, уявіць, як жылі нашы продкі, палюбавацца наваколлем і захаваць у сваёй душы ўспамін пра ўбачанае.

# Гераічны класіцызм як стыль эпохі



*А. Арлоў «Пагранічнік і калгасніца». 1939 г.*

Сёлета адзначаецца 105 год з дня нараджэння выпускніка Віцебскага мастацкага вучылішча, вучня знакамітага скульптара Міхаіла Керзіна, аднаго з лепшых прадстаўнікоў класіцызму 30-х — пачатку 40-х гадоў XX ст. Аляксандра Арлова. Пра яго асобу неабходна нагадаць нашчадкам: творчая спадчына майстра, пазбаўленая купюр і ідэйных абмежаванняў таго часу, дае шмат матэрыялу для разваг.

**Людміла НАЛІВАЙКА**

Зацікавілася асобай А. Арлова дзякуючы неспадзяванай сустрэчы з яго сынам Леанідам у архіве Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Ён прынёс рэдкія фотаздымкі скульптурных твораў бацькі «Сталін і Арджанікідзэ на Заходнім фронце» і «Пагранічнік і калгасніца» (1939). Калісьці гэтыя творы знаходзіліся ва ўласнасці Упраўлення па справах мастацтваў пры Савеце народных Камісараў БССР і Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР. На жаль, на дадзены момант у фондзе скульптуры музея яны адсутнічаюць.

Л. Арлоў доўгія гады збіраў матэрыялы пра творчую дзейнасць бацькі, меў каталогі, кнігі з указаннем выставак майстра. А іх было шмат: «Мастацтва народаў СССР» (1927), «15 год выяўленчага мастацтва БССР» (1934), «Сталін і людзі савецкай краіны ў выяўленчым мастацтве» (1937), «Выяўленчае мастацтва БССР» (1940), Усебеларуская выстаўка выяўленчага мастацтва «Ленін і Сталін — арганізатары БССР» (1940). Пазначаны ў выданнях будынкі, у афармленні якіх ён удзельнічаў. Напрыклад, у 1930 — 1934 гадах па плане архітэктара Іосіфа Лангбарда быў узведзены Дом урада Рэспублікі Беларусь — самы вялікі будынак грамадзянскай архітэктуры даваеннага часу Мінска. Для скульптурнага афармлення інтэр'ераў была створана спецыяльная група пад кіраўніцтвам М. Керзіна, у якую ўвайшлі З. Азгур, А. Бембель, А. Глебаў, А. Жораў, Г. Ізмайлаў і А. Арлоў. Наступныя гады каманда выбітных скульптараў працавала над афармленнем Акруговага дома афіцэраў (1935), Палаца піянераў (1936), Беларускага павільёна на Усесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўцы ў Маскве (1939). У спісы дзяржаўных заказаў таксама ўвайшла галерэя скульптурных партрэтаў заснавальнікаў навуковага камунізму, правадыроў пралетарскай рэвалюцыі ў розных відах: трохмерныя аб'ёмныя формы, бюсты, фрызы, барэльефы. Першы вопыт сінтэзу выяўленчага мастацтва ў савецкай архітэктуры стаў сапраўдным "экзаменам на сталасць" усёй беларускай скульптуры. Прыкладна ў гэты час А. Арлоў, які, да таго ж, з'яўляўся сябрам Віцебскага аб'яднання мастакоў і Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыі, быў узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Скульптар стварыў свой аўтарскі стыль гераічнага класіцызму, быў запатрабаваны часам, нягледзячы на пэўныя крытычныя нападкі, не губляў веры ў свае магчымасці, перад ім адкрываліся вялікія перспектывы творчай дзейнасці.

Дакументы, з якімі атрымалася азнаёміцца, не проста інфармуюць пра першыя поспехі маладога творцы, але дазваляюць адчуць атмасферу аднаго са шматзначных перыядаў мастацкага жыцця краіны. Вось такую характарыстыку, якая сведчыць пра тое, што А. Арлоў быў найбольш таленавітым паслядоўнікам эстэтычнага самавыяўлення настаўніка, даў маладому скульптару М. Керзін: «А. Арлоў быў адным з лепшых вучняў. Яго асаблівасцю было імкненне да прыгажосці формы, небывалыя любоўныя адносіны да апрацоўкі дэталей. Кампазіцыйныя творы Арлова гэтага часу насычаны лірыкай, нават назіраецца ўхіл у некаторую сентыментальнасць. Выключэнне — яго дыпломная работа «Качагар». Яна перадае тып рабочага, зроблена з пачуццём пластыкі руху» («Очерки по истории изобразительного искусства Белоруссии», 1940 г.).

Фіксацыя характараў і тыпаў людзей свайго часу сродкамі абагуленай і пластычнай мадэліроўкі формы — вось што характэрна для першых работ Арлова. І. Сталін і С. Арджанікідзэ на Заходнім фронце — дакументальная тэматыка такога кшталту таксама была вырашана скульптарам на высокім прафесійна-ідэйным узроўні. Мастак манументалізуе сваіх герояў, паказвае іх мудрымі, адказнымі, рашучымі. А. Арлоў дае праўдзівую характарыстыку не абагульненым вобразам правадыроў, але гістарычным асобам палітыкаў.

Скульптура «Пагранічнік і калгасніца» была створана для павільёна Беларускай ССР, які прэзентаваўся на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве. Экспанавалася пры ўваходзе ў якасці сімвала далучанасці Беларусі да Савецкага Саюза: жанчына — гэта Беларусь, якая выйшла на новыя межы з Захадам. І хаця побач «хаўрусніцкая» Германія, небяспека ўсё адно існуе, таму трэба быць уважлівым і пры неабходнасці стаць на абарону вялікай Радзімы. Праца беззаганная па эстэтычна-пластычным выкананні, яе можна параўнаць з антычнай пластыкай. Імя Арлова адразу стала вядома наведвальнікам выстаўкі.

Малады паспяховы скульптар быў шчаслівы і ў асабістым жыцці. На сямейных фотаздымках А. Арлова можна пабачыць яго маладую жонку, двух сыноў. Аднак Вялікая Айчынная вайна перакрэсліла ўсё. А. Арлоў пайшоў у войска, маці (паводле ўспамінаў сына Леаніда) паехала з дзецьмі да родных у Навагрудак, дзе памерла пасля цяжкай хваробы ў жніўні 1944 года. У 1945-м дзеці былі адпраўлены ў дзіцячы дом. Пра тое, што бацька загінуў у 1942 годзе ў фашысцкім канцлагеры, дазналіся толькі калі скончылася вайна. Сведчанне таго, што нашчадкі ўшаноўваюць памяць майстра, — яго партрэт на мемарыяльнай дошцы ў Палацы мастацтва.

# Палескі след



*Жанчына ў каляровай хустцы. 1988 г.*

Юбілейная выстаўка Мікалая Дубравы «Маё Палессе» прайшла ў Палацы мастацтва. Майстар прадставіў увазе гледачоў напісаныя алеем у рэалістычнай манеры творы розных гадоў: палескія пейзажы ды партрэты людзей, якія жывуць і працуюць на гэтай зямлі.

М. Дубрава нарадзіўся ў вёсцы Бярозаўка Мазырскага раёна, прыгажосць палескіх краявідаў увабраў з дзяцінства. Трэба адзначыць, цяга да малявання ў яго была заўсёды. Адразу пасля заканчэння школы юнак паступіў у Пензенскае мастацкае вучылішча імя К. А. Савіцкага, якое паспяхова скончыў у 1976-м, потым — у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Пэўны час працаваў на Гомельскім мастацка-вытворчым камбінаце «Мастацтва», з 1999 года выкладаў у Мазырскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, сёння з'яўляецца загадчыкам і выкладчыкам «Студыі выяўленчага мастацтва дзяцей і моладзі» г. Мазыра.

Творчы дыяпазон М. Дубравы шырокі: ён працуе ў акварэлі, эстампе, станковым жывапісе, у жанрах лірычнага пейзажа, партрэта, нацюрморта. Умелае валоданне рознымі тэхнікамі дапамагло яму выпрацаваць своеасаблівую сістэму вобразаў, у якой натуральнае спалучаецца з творчай імправізацыяй. Мастака цікавяць гісторыя і культура беларускага народа, нацыянальны характар, ён умее без знешніх эфектаў знайсці прыгожае ў будзённым.

Юбілейная выстаўка «Маё Палессе» прадстаўлена такімі жывапіснымі палотнамі, як «Да вячэры» (2005), «Вяртанне» (2010), «Былая сядзіба ў Барысаўшчыне» (2012) і інш. Чарнобыльскай тэме прысвечаны карціны «Самота» (1993), серыя «Чарнобыльскі след» (60 твораў). Трэба адзначыць, што дадзеная экспазіцыя выстаўлялася ў Мазыры і вельмі ўсхвалявала наведвальнікаў: большасць твораў мастака насычаны трывогай, смуткам і болем за Беларусь, якая пацярпела ад Чарнобыльскай катастрофы.



*Святочны дзень. 2001 г.*

М. Дубрава шмат выязджае на пленэры ва Украіну, Расію. Адразу ж пасля паездак ладзіць выстаўкі эцюдаў. Яго творы знаходзяцца ў фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі М. Багдановіча, Нацыянальным мастацкім музеі, Гомельскім краязнаўчым музеі ды іншых мастацкіх музеях і галерэях Беларусі, Расіі, Украіны, а таксама ў прыватных зборах калекцыянераў розных краін свету.

**Галіна ФАТЫХАВА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2728
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.04.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1615
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686